# *Літаратурны экватар*

***Альманах***

***Заснаваны ў 2012 годзе***

***Выпуск 1***

Мінск
2012

УДК [821.161.3+821.161.1(476)]-822

У альманах «Літаратурны экватар» уключаны творы як прафесійных, так і пачынаючых аўтараў. Усе яны – удзельнікі літаратурнага аб’яднання “Экватар”, якое ўзначальвае беларускі паэт Вячаслаў Корбут.

Укладальнік
*Вячаслаў Корбут*

Шэф-рэдактар
*Інга Вінарская*

Уступны артыкул
*Вячаслава Корбута*



***Шаноўныя сябры!***

Для літаб’яднання “Экватар” значнай падзеяй у жыцці нашай творчай суполкі з’явілася выданне альманаху. Вясной 2012 года мы трымаем у руках першы афіцыйны нумар альманаху “Літаратурны экватар”. Гэты выпуск, скажу дакладна, вызначаецца пэўнай сталасцю падабраных матэрыялаў сяброў нашага аб’яднання, якія сёння ўжо з новай сілай рыхтуюць да аналізу і прачытання свае творы, і тое, што мы ў цяперашні час маем, бачна на старонках гэтага выдання.

Крануся крыху мінулага 2011 года, які, без сумневы, стаў даволі плённым для ўсіх нашых калег. Па-першае, многія з іх змаглі паспрабаваць свае сілы, дэманструючы свае паэтычныя здольнасці перад рознымі аудыторыямі. І гэтыя спробы адбыліся даволі ўдалымі і прынеслі як слухачам, так і самім выканаўцам дастатковае эстэтычнае задавальненне. Па-другое, і гэта вельмі істотна, выйшаў у розных выдавецтвах шэраг кніг нашых сяброў. Сярод іх Якаў Анапрэенка, Людміла Сівалобава, Інга Вінарская, Людміла Міхейкіна і іншыя. Значна вырас за гэтыт час мастацкі ўзровень сюрэалістычнай прозы Аляксея Палачанскага, развіўся ў бок мастацкай прозы Валеры Скакун. Дарэчы, нашыя аўтары ўсё больш схіляюцца да прозы, і гэта сведчыць пра тое, што расце іх цікавасць да адлюстарвання нашай эпохі і мінулых часоў. Да нашага калектыву далучыліся і новыя цікавыя творцы, людзі, закаханыя ў літаратурнае слова, якія горача любяць сваю краіну, свае родныя куты, якія па-чалавечы годна ставяцца да свайго выбару – ствараць цікавыя і разумныя літаратурныя рэчы. Яшчэ дадам, што прыемным элементам работы літаб’яднаня “Эвкатар” стаў той момант, што мы пачалі разумець адзін аднаго і мець той узровень павагі, які дазваляе канструктрыўна ставіцца да творчасці кожнага, а значыць, дамапагаць расці ўдзельнікам літаб’яднання ў творчым плане.

А цяпер пераходжу да асноўнай падзеі, да нашага альманаху. Распачынаеццца яго выпуск вершамі неардынарнай і таленавітай аўтаркі ***Наталлі Анапрэенкі.*** Глыбокія па сутнасці і лірычныя па зместу яе вершы заварожваюць непасрэднасцю і шчырасцю, і як вынік, роздум над нашым нялёгкім, але такім цікавым жыццём. Скажу адно: у Наталлі вершы даволі якасная, у іх шмат думкі, глыбіні і адчування быційнасці лёсу. Сярод іх вершы ў прозе “Люстраная восень”, “Вячэрняя імгла…”, вершы “Адарвалася і адышло”, “Страна марионеток” і іншыя.

Воляй лёсу адным з нашых самых актыўнах і дзейных аўтараў з’яўляецца ***Якаў Рыгоравіч Анапрэенка.*** Жвавы, малады сэрцам і пачуццямі, ён распычынае ў нашым альманаху цыкл празаічных твораў. Як чалавек, верны свайму крэда – глыбей ўглядацца ў спадчыну нашай багатай і густа засеянай падзеямі гісторыі, Якаў Рыгоравіч прадстаўлены ў альманаху не-

вялікімі эсэ, на аснове якіх можна дэталёва ўгдядацца ў тыя ці іншыя падзеі з жыцця нашага народа. Сярод прадстаўленых твораў – “Човен”, “Кузня”, “Грушэнскія абрады” і іншыя. Чытачу любога ўзросту будуць цікавыя падзеі, што апісвае пісьменнік.

Як заўседы бадзёра і па-чалавечы цёпла, выступае на старонках нашага альманаху адзін са старэйшых аўтараў, чалавек з багатым жыццёвым вопытам і своеасаблівым мастацкім густам ***Віктар Пракоф’евіч Алдохін***. Чалавек, улюбёны ў жыццё, сам заўсёды гатовы падхапіць сваім зычным голасам бадзёрую песню і нават заспяваць песню ўласную, Віктар Пракоф’евіч прадстаўлены ў альманаху нізкай вершаў лірычнага зместу, сярод якіх як вінашаванні блізкім людзям, так і вершы, у якіх аўтар прадстаўляе сваю жыццёвую пазіцыю, такія як “Оглянись и сделай вывод”, “Я слесарь был, им вечно буду” і іншыя.

Працягвае тэндэнцыю выступаць не толькі на сцэне з уласнымі песнямі пад гітару, але і на старонках нашага альманаху паэтка, бард, таленавітая, экстравагантная і прыгожая аўтарка ***Тацяна Беланогая.*** Сёння аб творчасці Тацяны гавораць у розных кутках Беларусі, яе песнямі захапляецца шмат аматараў бардаўскай песні. І ёсць чым захапляцца: мелодыкай твораў, голасам самой спявачкі і, безумоўна, дасканалымі і яскравымі па сэнсу і лірычнай аздобе тэкстамі. Частку з іх мы друкуем у гэтым нумары нашага альманаху. Сярод іх – “Музыка”, Нябачныя танкі”, “Пакахай мяне”, “Мы – вецер” і іншыя. І яшчэ. Вершаваная творчасцьТацяны напоўнена зычнымі галасамі свабодалюбівага настрою, і ў ствараемым ёю свеце ёсць месца кожнаму, хто цэніць уласную годнасць і прагу да волі.

Зусім іншымі па гучанню і па настрою з’яўляюцца выршы нашага маладога творцы ***Апанаса Бацяноўскага.*** Апошнім часам ён прызнаўся, што пачаў спрабаваць свае сілы ў прозе. І гэта добры знак: пісьменнік развіваецца. У альманаху Апанас прадстаўлены нізкай вершаў у стылі аўтара, які імкнецца захаваць у сваіх радках подых эпохі Срэбранага веку, калі паэты з’яўляліся прадвеснікамі новых эпох, новых часоў, імкнуліся ўзбагаціць патрыярхальную краіну высокай і дасканалай творчасцю. Вось і Апанас Бацяноўскі застаецца верным гэтай традыцыі: шукаць лепшае ў будзённым, зычнае ў традыцыйным, яскравае ў пажухлым. Сведчаннем таму вершы “Поэты”, “Пустыня”, “Потомки Ноя”, “Тоска по высокому слогу”, “Рай” і іншыя творы. Адзначу таксама, што Апанас за апошні час усё больш пашырае свой кругагляд як творца, і я ўпэнены, што яго мастцкае слова яшчэ знойдзе выйсце ў розных новых формах і стылях.

Твочасць ***Інгі Вінарскай*** рэкламаваць не трэба. Пачну з таго, што менавіта яе высілкамі быў сабраны і адрэдагаваны гэты нумар нашага альманаху. У Інгі да слова заўсёды высокая планка, і яна патрабуе ад аўтара не менш, чым ад сябе. А гэта – прыкмета прафесійнага стаўлення да літаратуры і літаратурнага працэсу, якія ў сваю чаргу не даруюць бесклапотных адносін да сябе. Што тычыцца вершаў Інгі, то іх проста неабходна чытаць, захапляючыся імі, адчуваючы высокі эфект ад энергіі слова, якое рвецца на прасцяг нашага будзённага і замшэлага свету. Адкрывае падборку верш “Ночные поезда”, які і даў назву зборніку, які выйшаў ў паэткі ў мінулым годзе. Таксама ў альманаху прадстаўлены такія вершы, як “Я мчусь в закат и опоздать пытаюсь”, “И всё труднее забываться”, “Ощущения”, “Я сыграю тире в пунктире” і іншыя. Аб тым, што паэзія Інгі Вінарскай даволі яскравая і па-непасрэднаму багатая на эмоцыі, гаварыць залішне, яе трэба чытаць, ікнуцца суперажываць лірычнай гераіне, але, відаць, дарэмна імкнуцца яе зразумець, як часам цяжка зразумець жаночае сэрца, пяшчотнае, добрае, шчырае…

***Ігар Грыцкоў*** дэбютуе ў нашым альманаху як чалавек, які зусім нядаўна стаў сябрам нашай суполкі, але адразу зрабіўся яе актыўным удзельнікам. Гэта чалавек, да глыбіні сэрца ўлюблёны ў нашу Беларусь, яе краявіды, яе вялікую і магутную гісторыю. Як зазначае сам Ігар Міхайлавіч, літаратурай ён захапляецца з юнацтва. І вось зараз у яго ёсць магчымасць з вышыні гадоў па-сталаму зірнуць на жыццё і стварыць тыя творы, якія, безумоўна, спадабаюцца многім прыхільнікам цікавай, шмат у чым біяграфічнай, а таксама прыгодніцкай прозы. Чытачы могуць у нашым нумары знайсці па-свойму займальныя апавяданні, сярод якіх “Мишка”, “Николай”, “Рыбалка” і іншыя.

***Вячаслава Макуця*** мы, нажаль, не можам бачыць і слухаць, калі пажадаем. Ён жыве і працуе ў добрым і старадаўнім горадзе Ваўкавыску. І працуе наш Вячаслаў Мікалаевіч на ніве культуры ўсе жыццё, ставіць спектаклі як рэжысёр, сам яскрава выконвае розныя ролі, ладзіць канцэрты як бард, выконвае свае ўласныя песні, а таксама шмат піша вершаў, у тым ліку і на роднай мове. Вось і ў гэтым нумары альманаху мы маем магчымасць пазнаёміцца з новымі творамі гэтага няўрымслівага на ніве культуры чалавека, які апантаны прагай ладзіць добры настрой сваім слухачам, сябрам і блізкім людзям. Сярод прадстаўленых тут твораў Вячаслава Макуця такія, як “Нясвіжскі раманс”, “Переоценка, как ревизия души”, “Учеба в гимназии – трудное дело” і іншыя высокаэнергічныя творы.

Сёння нашу суполку ўжо цяжка ўявіць без працавітай і заўсёды пазітыўна настроенай на добры вынік ***Людмілы Міхейкінай***. Мінулы год стаў для паэткі і празаіка Людмілы Міхейкінай найбольш выніковым ў плане творчага плёну. Яна выдала дзве кнігі. Першая – гэта кніга прозы “Дорогами любви”, а другая – зборнік вершаў “Такая большая короткая жизнь”. Кнігі сапраўды атрымаліся цудоўнымі як па зместу, так і па афармленню, і думаю, што ў наступных кнігах дарога да чытача ў Людмілы будзе яшчэ больш кароткая. Колькасць прыхільнікаў творчасці гэтага чалавека

будзе несумненна расці, як і якасць яе твораў. У гэтым я ўпэўнены. А ў нашым нумары чытачам прадстаўлены вершы са зборніка “Такая большая короткая жизнь”, напісаныя ў розныя часы. Вершы Людмілы вобразна насычаныя і эмацыянальна пранікнёныя, у іх ёсць уся палітра перажытых лірычнай гераіняй гамы пачуццяў. Сярод іх вершы “Прощай”, “С чистого листа”, “Жене декабриста”, “Дымок воспоминаний” і іншыя.

Стварыў жанравую разнастайнасць у нашым альманаху сваім цікавым і змястоўным артыкулам “Создатели Байконура” наш сябар і аматар добрай кнігі, кіраўнік бібліятэкі Дома афіцэраў г. Мінска ***Віктар Аляксандравіч Паўлаў***. Чалавек у мінулым ваенны, Віктар Аляксандравіч сёння шмат працуе на ніве культуры, піша артыкулы, ладзіць сутрэчы з цікавымі і папулярнымі людзьмі, займаецца грамадскай дзейнасцю, шчыра падтрымлівае работу нашага аб’яднання, бо разумее, што дзяржава і грамадства будуць існаваць у здаровым маральным клімаце толькі тады, калі будуць складацца высокадухоўныя і высокаэстэтычныя творы для шматлікіх і ўдзячных чытачоў. Поспехаў Вам, Віктар Аляксандравіч, і калектыву бібліятэкі Дома афіцэраў. Таксама хачу прыгадаць добрымі словамі былую карыўніцу бібліятэкі Людмілу Уладзіміраўну Домніч. Гэта Вам, а таксама Вашым калегам я прысвяціў свой верш “Бібліятэкар”, змешчаны на старонках гэтага нумару альманаху.

Наш малады калега і таленавіты аўтар ***Аляксей Палачанскі*** прадстаўляе генерацыю новых творцаў, якія імкнуцца дасягнуць вышынь у мастацкім слове праз сентэнцыю розных літаратаратурных плыняў, што сёння робяць многія маладыя аўтары. Аляксей за апошні час дастаткова моцна вырас, ён імкнецца працаваць над словам амаль філігранна, ратуючы вобраз і думку ад шаблона, ствараючы досыць граматныя кампазіцыі ў невялікіх празаічных жанрах. Аляксей працуе таксама на ніве паэзіі, але ўсё ж найбольш часта ў прозе. Гэта ўдумлівы і самабытны аўтар, які на старонках альманаху радуе нас сваімі новымі сюрэалістычнымі празаічнымі апавяданнямі “Гарбата са снегам” і “Ля дарогі”. Чытаць гэтыя творы і проста, і складана аданачасова, бо яны прымушаюць думаць. Падумаем разам.

Пра ***Людмілу Сівалобаву*** я скажу проста. Гэта наш ужо сфарміраваны навэліст, аўтар цікавай і змястоўнай кароткай прозы. Да гэтага дадам, што Людміла Аляксееўна ў мінулым годзе выпусціла празаічны зборнік пад назвай “Новеллы”. Гэта добрая падзея, якая дазваляе чалавеку выйсці да чытача і адчуць подых чытацкай цікавасці. А гэта заўжды займальна. Сёння мы можа прачытаць у альманаху такія творы аўтаркі, як “Египетские ночи”, “Незабываемые встречи”, “Опасное знакомство” і іншыя. Усе яны трымаюць чытыча пад напружаннем займальнага сюжэту і вабяць разнастайнасцю вобразаў герояў.

Паэт і бард ***Валеры Скакун*** у новым нумары альманаху прадстаўлены як паэтычнымі творамі, так і невялікім апавяданнем. Дадам, што маючы



багатую ў часовай прасторы працу на ніве паэзіі, Валеры распачаў працу і над прозай. Скажу больш. За апошні час Валеры Скакун пад сцягам нашага літаб’яднання з поспехам правёў не адно выступленне перад шматлікімі слухачамі. І сёння вялікая заслуга аўтара ў тым, што ён радуе нас сваімі змястоўнымі творамі, сярод якіх вершы “Словы даверу”, “Падалося, час прыйшоў вяртацца”, “Горы клічуць” і іншыя. Валерыя Скакуна можна назваць рамантыкам вялікіх дарог, і гэтым матывам прасякнуты многія яго-ныя творы.

Паэтэса ***Ала Цяцёркіна*** ў нашым альманаху дэбютуе са сваімі вершамі. Як чалавек улюбёны ў кнігу і мастацкае слова, Ала і ў сваіх вершах працягвае традыцыю шчырай і ўдумлівай паэзіі, актыўна прапагандуе творчасць сваіх калег. У яе вершах ёсць і шчымлівы сум за лёс нашай зямлі, і вера ў яе вялікае будучае, а таксама прага да прыгожага, да яскравага існавання ў нашым свеце, прысутнічаюць высокія рэлігійныя матывы. Асаблівасцю творчасці Алы Цяцёркінай з’яўляецца імкненне да нябачнага духоўнага святла, якое наталяе наш свет і надае ўсім нам тыя сілы, якія мацуюць дух і дазваляюць больш годна і смела ісці па жыцці. Гэта асабліва адчуваецца ў такіх творах паэткі, як “Свеча Святого Воскресенья”, “Белорусские хризантемы”, “Что стоит улыбка ребенка” і ў іншых яе вершах.

Завяршаецца наш альманах вершамі маладой і падаючай надзеі паэтэсы, чалавека з уласным бачаннем свайго творчага свету ***Ірыны Шамко***. Вершы Ірыны напоўненыя сваёй індывідуальна-дзіўнай энергетыкай, непасрэдным адчуваннем глыбіні жыцця, нялегкасці той ношы, якую нясе чалавек у сённяшніх абставінах, у прыватнасці гераіня – жанчына маладая, энергічная, якая шукае свой шлях і сябе на гэтым шляху. Дадам яшчэ. Лірычная гераіня Ірыны можа адчуваць як “разметок пульсируют тени” і ёй “…нравится жизнь кочевая”. Паэзія Ірыны Шамко смела кранае сэрцы і спрабуе налададзіць сур’ёзную размову з чытачом па розных тэмах. Сярод вершаў адзначу такія, як “Дайте время для тишины”, “Утеряна тетрадка”, “Первый сонет”, “Мои стихи не станут в шкаф красиво”, “Мне не уснуть: я знаю этот звук” і іншыя.

Пакуль усё. Праехаўся амаль па кожнаму, лёгка, без шурпатасці напільніка, якім можна здзерці скуру, няхай нават і творчую. Але не для гэтага мы разам сабраліся. Хачу адзначыць галоўнае: гэты нумар альманаху мае дастаткова моцны склад. І я жадаю, каб кожны наш аўтар працаваў і надалей больш моцна, бо не сакрэт, што да ўзораў сусветнай класікі нам усім яшчэ далёка. Але тым і цікавая літаратура, што тут заўсёды ёсць прастора для развіцця. Поспехаў усім і віншую з выхадам гэтага нумара!

*Ваш Вячаслаў Корбут.*

***НАТАЛЛЯ АНАПРЭЭНКА***

*Нарадзілася 10 снежня 1975 года ў Мінску. Скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта ў 1998 годзе. Вершы піша з 1992 года. Шмат друкавалася ў перыёдыцы. Зараз працуе на філфаку БДУ. Рыхтуе дысертацыю па тэме "М. Багдановіч і Б. Лесьмян: ідэйна-мастацкія сыходжанні".*

***

Калі анёлы наносяць тваё імя на пялёстках майго сэрца, яны адкрываюць мне невядомыя да гэтага бачанні – і па дарозе ў патаемны замак летуценняў, што дасягае нябесных далячынь, здымаюцца ўсе покрывы прастораў, вышынь і стыхій. Я ў захапленні ад падарожжа, што мае быць: цудатворная сіла цішыні, чакаючы спаткання з вечарам, пераўтварае заходнія цені ў цудадзейныя музы. На балконе ўспамінаў я бачу залатыя светы прамяністага вострава…

…З нерухомых туманоў выплывае наша ладдзя – і накіроўваецца да саванаў Святла…

**Люстраная восень**

Люструецца восень пад шатамі прахалоды, распавядаючы няспынную казку вандравання несмяротнай душы. Згадаўся ізноў залаты подых сусветнай Любові, што ўліваецца мелодыяй Тварэння ў залюстраваную ўспамінамі восень. Цяпер мы – падзеленыя зорнай аблямоўкай на парозе ілюзій у чаканні ўсявышніх цудаў. Але аднойчы душа вырвецца ўслед за марай першародным крышталем Кахання.

Прызямляецца змярканне. Гусцеюць вячэрнія цені, засланяючы край барвовых прамянёў. Гарызонт кідае ў цёмнае неба апошнія жмені блікаў.



Невялікі ўтульны пакой, агорнуты пяшчотай летуценняў. Забыты ўрокі і школа, і хлам паўсядзённых клопатаў. Шчыліна захаду падае ў расчыненае акно – і нямы ландшафт бачанняў акрэслівае ў Яго душы ўсё яшчэ невыразны і расплывісты вобраз…

Запальваецца першая зорка, потым яшчэ – і так адна за адной. І вось цэлае зборышча зорак пралівае ззянне, вядучы шматлікімі неспасціжную гутарку з агнямі начнога горада.

Завéрасніла ў сэрцы расставаннем і ўспамінам, але ноч, што вось-вось надыдзе, прадракае супакой і асалоду: зорнае неба малюе прыстанак ў мігаценні запаветнай мары… І сэрца пускаецца ў ілюзорны струмень…

Гэта час таемстваў і адкрыццяў. Святленне зорак распальвае патаемнае полымя душы – яны нашэптваюць тое, што тут завецца казкай, адводзячы за звыклыя свядомасці межы, дзе часу невядома ўлада гадзіннікавых механізмаў.

*"Гартаючы старонкі кнігі Сусвету глядзяцца зоркі ў акно. Не, глядзяцца ў душу, каб пасля выліцца нязгасным святлом там, на іншых берагах Светабудовы, дзе прызначана сустрэча для нас. У зацішшы нябесных вяршыняў я чую да болю знаёмую размову. Жаданы промень затапляе маё сэрца струменямі святла. Я – у цені твайго святла. Разам – мы ў адным ззянні. Мы дзве зоркі ў бязмежнасці святла…"* – Яго сэрца прылучаецца да таямніцы, пускаючыся да запаветнага ўлоння мары.

Ён яшчэ не ведае, што за акном Ягонага пакоя час укараняе рэчаіснасць – ён жыццё забівае рэальнасцю.

Мы самі выбіраем гадзіну нараджэння.

***

Вячэрняя імгла разаслалася над асеннім горадам, астылым і халодным. Ахутаны смугою і туманам, гэты свет здаецца тужлівым і пустынным. Манатонная мелодыя адзінокіх раздумванняў, закалыхваючы ў сваіх абдымках, зліваецца ва ўнісон з пануючай дрымотай. І я, трапіўшы ў палон салодкіх сноў, дзе звычныя рамкі вузкія і цес-

ныя, расчыняю створкі патаемнага акна ў нябесныя глыбіні, дзе ніці зорнага ззяння звіваюць шлях свяшчэнным марам напярэймы даўно адышэдшым вякам і наступным тысячагоддзям…

Гэтай ноччу мне снілася, што ля дварцовай брамы спынілася пазалочаная карэта і выйшла Ты, уладарная і велічная, у парчовым убранні, расшытым жэмчугам, і ў кудзерках Тваіх ззяла дыядэма, упрыгожаная брыльянтамі. Ты царственным поступам падымалася па ступенях, і нерухомыя рамізнікі прагна глядзелі Табе ўслед, расступаліся ліўрэйныя лакеі і прыдворныя дамы кідалі зайздрослівыя погляды…

Але толькі ранішняя зорка ўзышла над горадам, яшчэ ахутаным дзівоснай казкай сну, і з перадсвітальнага туману з’явілася Ты, нявінная, стройная і чароўная. Асенні туман адрываўся ад халодных рэк, якім вербы вылiваюць сваю журботу, а Ты ступала босымі нагамі па росных травах і азёрах кветак. Сукенка, вышытая каласамі, валашковымі і фіялкавымі ўзорамі, аблягала тоненькае цела і духмяныя хвалі кучараў віліся па Тваіх шчаках і плячах. Ты ішла, і птушкі замаўкалі ў лістоце, вецер заціхаў у палях, цені асядалі на маляўнічых пагорках, і жэмчуг аблокаў застываў у акварэлі неба. Калыхаючыся, ківалі званочкі, і лагодныя травы пакорна клаліся пад Тваімі падэшвамі…

А мае акно абвівалі квяцістыя азарыны і гліцыніі – гэта вандроўнік часу прыціх ля акна маёй душы…

***

Незвычайныя дэкарацыі нябесных свяцілаў на палатне светабудовы – нябёсы паглынаюць зорку за зоркай.

Мяне спальвала нецярплівасць і мучылі прадчуванні. А астролагі прадказалі мне непагадзь, запісаўшы свае прароцтва ў старажытныя пергаменты, і чарадзеі прачыталі гэтае закляцце па грымуарах.

І вось нястрымлівы імпэтны віхор прадказанняў і закляццяў уносіць мяне ў нетры сусветных прастораў.

Сінь укрылася за цяжкімі цёмна-шэрымі шматкамі хмар. Наляцеў вецер. Пануры і разбуральны. І люты ўраган, тужліва воючы, гоніць мой блукаючы дух у неймаверныя чарнеючыя высі. Мары



згубіліся ў раз’юшанасці бязлітаснай стыхіі, зацягнуўшы мяртвецкімі страшэннымі думкамі ўвесь небасхіл. Разважанні ператварыліся ў памылковасці і заблытванні. Адправіўшыся ў галаваломнае падарожжа напасцяў і ліхту́гаў, я пазнала сярод астральнага маўчання глыбіню горкіх думаў, цяжкага мучэння, адчаю і вар’яцтва, калі вар’яцтва заключаецца толькі ў адным – быць не такім, як усе.

Зараз рэчаіснасць выпала з прасторы, завалочачы густой заслонай беспрасветнасці былое існаванне, і нагадвае больш безвыхаднасць, дзе засталіся руіны памяці, сярод якіх здаецца, што ўжо ніколі не вернецца просінь нябёсаў. Але калі на чорным небе безразважнасці і скрухі ўспыхваюць адда́леныя водбліскі маланак, вырываючыя з хмар вогненныя жмуты, дык хочацца верыць, што гэта промні ўзыходзячага сонца…

А быць можа, ахмурэнне ля межаў небыцця – жудасны сон, цьмяны і тлеючы? А бездань цьмы – проста падман? І я, ачнуўшыся ад памылковых вымыслаў і выдумак, у велізарнай мешаніне сусвету ўбачу сваю зорку, цяплеючую дзень за днём, якая, разгарэўшыся, у рэшце рэшт прапаліць промнямі небасхіл і асветліць сваім харaством і веліччу чорныя хвалі страчаных год. І я, нарэшце, стаміўшыся ад гаданняў і бездапаможных слёз, адчую ўзым. І знаходзячы сутнасць натхнення і ўзвышэння, інстынктыўна і падсвядома ўпрыгожу ляда́шчыя спарахнелыя светы нягаснучым вянком самацветаў…

І добрыя чараўнікі, здольныя толькі на цуды, начэрцяць іншыя пісьмёны…

***

Адарвалася і адышло,
Растварылася, знікла
Неўсвядомленае “ці было?”,
Непрымальнае “прыкра”.
Ператвораная ў нецяпло
Недарэчнасць пяшчоты.
Першы крок на разбітае шкло
Замест мяккай лістоты.

Першы погляд у іншабыццё
Нетутэйшых прастораў.
Вынаходніцтва і адкрыццё
Не сваіх наватвораў.
Перайначанае пачуццё
Недамоўкай падання.
І адпушчаная ў небыццё
Легкадумнасць кахання.

***

Здаецца, спынілася ўсё і застыла.
Анёлы стаміліся думаць пра нас.
Прадбачанне смутку і водар змяркання
Сабой засланяюць нябёсаў блакіт.
Люстэрка ўспамінаў дрымотнага царства:
Згубіцца ў мінулым і ў днях, што прыдуць.
Схавацца пад покрывам мрой, што разбіты…
Празмернасцю змены пустэчы і крах.

Мы прагнулі выпіць салодкіх напояў,
А выпілі зелля атруту і хмель.
Між намі імглістыя сны-летуценні.
Каханне, якое спазналі – падман.
Героі аповесці без заканчэння
І два сілуэты з малюнкаў без фарб,
Рассеемся блікамі цьмянага ззяння
Мы, ператварыўшыся ў горстку руін.

Бадзягамі золак халодны сустрэнем.
Бясстраснага неба расплаўлены фальш.
І наша каханне – забытая небыль,
Шаленец пачуццяў і згублены сэнс.
Такія ж студзёныя першыя промні
Нацэляцца стрэламі ў сэрца-мішэнь…



І сведкай пажару – рассыпаны прысак.
І фактам расстання – пустэча вакол.

А зараз – спынілася ўсё і застыла…

***

напластаванне рэальнасці на летуценні
і летуценняў на рэальнасць
жаданне валодаць ёсць сіла прыцягнення
я гляджу скрозь магічны шар
і ўрываюся ў тваё мернае жыццё
калекцыя
разбураных светаў
і паламаных частак
дзе няма дакранання да мінулага
але часам ўзбуджаюцца ўспаміны
і на мяжы маўчання
іншае «я» глядзіць на мяне
а я гляджу срозь маску
і бачу толькі цені

***

Я живу не сегодняшним днем.
Отголоски из марева времени
Ворвались в ледяной окоем –
И склонились под тяжестью бремени
Все мечтанья мои, словно ивы у вод,
Что печалятся ночи и дни напролет.

Возвращенье назад без конца
По вселенным пустым и заброшенным.
И тоска тяжелее свинца.

Эхо прошлого гостем непрошенным
Пробежится по листикам ив,
Что поникли у вод, загрустив.

Архитектор иллюзий и снов,
Я тобой наполняю видения,
Обступили они мой альков,
И не верю во власть пробуждения.
Ивы хмурятся, еле слышна
Колыбельная долгого сна…

***

Страна марионеток
Раскроет тайники,
Где наши напоследок
Танцуют двойники.
Что есть, переиначит
Зажженный бал теней.
Ты – кукловод, и значит,
Во власти я твоей.

Я – кукла в этой сказке,
Ты – повелитель в маске.
Я падаю в объятия твои…

Распахнутые двери
В потусторонний мир.
Печаль крадется в щели.
Меланхоличный пир
Устроил для меня ты,
Затеяв этот бал.
Расплавленные взгляды
Магических зеркал.
Я – кукла в этой сказке,



Ты – повелитель в маске.
Объятия петлею палача…

Ты правишь бал для кукол,
Точнее – для одной.
Кричит досада в рупор,
И темнота стеной.
Ночные силуэты,
И вычурная страсть.
Движенья, пируэты,
Чтоб навсегда пропасть.

Я – кукла в этой сказке,
Ты – повелитель в маске.
Ради тебя падение мое…

Преданья о надеждах
Сгорят вместе со мной.
В полузакрытых веждах
Предсмертный, роковой
Крик жертвы, что мечтала
Твоею жертвой стать.
Ты – повелитель бала,
Мне больше не летать...

Я – кукла в этой сказке,
Ты – повелитель в маске.
Я – кукла, чтоб со мной играть…

***

Позолотой – с деревьев листва,
Серебром – с поднебесья пороша.
Закручинилось вновь, и молва
Всё печальней становится тоже.

Из далеких арктических вод
Понимается ветер морозный.
И пурга набирает свой ход,
И буран надвигается грозный.

Впереди ожидает метель,
Позади – кутерьма листопада.
Беспощадных ветров канитель –
Сквозняки опустевшего сада.

Замерзать на холодных ветрах
В самом логове зимних владений.
Погребение сердца и крах
Всех желаний, надежд и стремлений.

Нет бесплодней пустынной тайги,
Собирающей все ураганы:
Распускает зима кулаки,
Обнимают слепые туманы.

Не найти заповедных дорог.
Твое имя теперь под запретом.
Для души моей зимний чертог
Возводил ускользающим летом

Тот, кого я считала творцом,
Живопишущим над цветниками.
Осень поздняя с грустным концом.
Зима снежная бьет кулаками,

Аквилоны спуская с цепей,
Снежным бурям простор отдавая.
Причитанья потерь и скорбей –
Серенада моя снеговая.



## *ВИКТОР АЛДОХИН*

*Родился 21 декабря 1931 года в городе Клетня Брянской области (Россия). Окончил Высшую школу милиции в Минске в 1961 году, Ленинградский монтажный техникум в 1966 году, Рославский техникум механизации сельского хозяйства. Работал в разных городах, занимая различные должности. Долгое время служил в органах внутренних дел. Начиная с 1960 года, начал писать стихи и песни. Занимается творчеством по сей день. В настоящее время живёт в Минске.*

### Поздравление женщинам 8 Марта

И снова к нам пришла весна,
Она в свои права вступила.
Восьмое марта подошло –
Не забывать мужчин просила.

А как известно всем давно,
Восьмое – праздник поцелуя.
Все грудь готовы подставлять
Амурным стрелам, вновь рискуя.

Еще прекрасен праздник чем:
Мы хвалим женщин, не смолкая,
Пред их красой и добротой
Мы низко головы склоняем.

Но, низко головы склонив,
Должны мы сделать всё по чести:
Сказать ведь надо: любим вас!
С любовью жить, и жить без лести.

И в этот день желаю всем
Вам счастья женского немало,
Чтоб вам хватило на всю жизнь
И для потомства чтоб осталось!

***

Я слесарь был, им вечно буду –
Категорично говорю.
И когда в гости смерть нагрянет,
Ей косу быстро отобью.

Потом я сяду с нею рядом,
Поговорим о том, о сём,
Как жили мы на этом свете,
Прикинем, будем как на том.

Ну, а потом, как подобает,
Мы выпьем по стакану с ней.
Свою же песню ей в дорогу
Я пропою – про мир теней.

**Поздравление**
**Владимиру Ивановичу Бородавко**
**в честь 60-летнего юбилея**

Народ завода, словно улей,
И все поздравить норовят,
Ведь генеральному сегодня
Минуло ровно шестьдесят.

Вам шестьдесят всего сегодня –
Пускай минет еще полста.



Да, в Ваши годы мудрость правит,
Судьба ведь Ваша непроста.

И всё в дальнейшей жизни Вашей
Пусть гладко будет – в трудовой.
А в личной жизни – счастья много,
Товар ведь это дорогой.

Пусть Ваше счастье долгим будет,
Пусть будет ярким до конца.
Его Вы точно заслужили,
Ведь не теряли Вы лица.

Ваш юбилей все отмечают,
Пусть Вам воздастся по делам.
Живите счастливо и долго –
Себе на радость и всем нам.

**Весна**

Нам солнце улыбнулось,
Мы крикнули: «Ура!»
Проснулась вся природа –
Пришла весна с утра.

Весна – не время шуток:
Пора любви грядет.
Друг друга уважайте –
Любовь сама придет.

Вдруг явится нежданно –
Не нужен пропуск ей,
Без вашего согласья
Она летит быстрей.

Любовь вас так закружит,
Она вас в плен возьмет,
Поэтом стать поможет,
Отцом – коль повезет.

Да! Счастье быть любимым.
Да! Счастье так любить.
Так помоги нам, Боже,
Всё это совместить!

**Оглянись и сделай вывод**

Снова в зубы ты воткнула
Сигарету, и не раз,
И опять ты водку хлещешь,
Словно воду или квас.

Ты пойми, в дыму табачном
Уничтожишь красоту,
Растеряешь добродетель
И получишь пустоту.

Пустоты земля не терпит –
Искажается процесс.
Не родится в пьянке гений,
Лишь появится балбес.

Так зачем тебе, родная,
Ряд балбесов умножать?
Лучше брось курить отраву
И попробуй лучше стать!



**Золотая осень**

Какой мастак, какой кудесник
Так расписал осенний лес?
И слов, конечно, не хватает,
Чтоб описать тот мир чудес.

Мастак, конечно, всем известен.
Он всемогущ, он у руля.
Всё то он создал, что мы видим,
Ему подвластна вся земля.

Его Всевышним называют,
Его Великим тож зовут.
О, Боже наш, тебя мы славим
За твой – для нас – тяжелый труд.

**Парку имени 60-летия Фрунзенского района г. Минска**

Мой парк, о мой прекрасный парк,
Пою я неустанно.
Ты красотой чаруешь глаз,
Так сердце бьется странно.
Хоть небольшой, но всем хорош
Оплот природы милой.
Ты душу лечишь шепотком,
Листвы древесной силой.

Здесь есть, конечно, дуб и клен,
И ясень вперемешку.
Ты перед парка красотой
Скинь кепку и не мешкай.
Коль голова вдруг заболит,
Не надо пить таблетки –
Парк вылечит за полчаса,
Не разрушая клетки.

**О себе**

Пусть детский лепет я пишу –
Читать насильно не прошу.
Но время не всегда для дела,
Глядишь – вот проза надоела.
Тогда откройте томик мой,
Найдете, внуки, там покой.
Но там найдете вы и то,
Что поразит вас на все сто.
И кровь вскипит в стенах сердец,
Услышу: «Дед, ты молодец!»
Коль АВП я расшифрую,
То получу я, не рифмуя,
Всего себя я, не тая:
Алдохин Виктор – это я,
Прокофий – внукам наконец
Напомню я, был мой отец.

**Поэту Вячеславу Корбуту**

Тебя еще я знаю мало,
Но замечаю я всегда:
В тебе есть то, что не хватает
Так многим людям иногда.

В твоих глазах не вижу гнева,
Твои слова почти бальзам,
Тебя хвалю, хвалю за это:
Не роешь ямы тут и там.

Ты нам поддержка и опора
На поэтическом пути.
Ты подтолкни нас крепко в спину,
Чтоб мы могли вперед идти.



С твоей руки благословенья
Случится, может быть, – как знать? –
Я напишу с десяток песен,
Народ их будет распевать.

**Славе Букве**

Без букв нам просто не прожить,
Без буквы слова не составить,
Сложить мы можем только «му»
И замолчать себя заставить.

А буквы, эти крохи нам
Дают простор они летучий,
От них родится и язык,
И все зовут его могучий.

И с его помощью, друзья,
Прогресс ничто не остановит,
Но я советовал бы всем:
Поменьше надо сквернословить.

Язык простор дает всему,
Полет приносит вдохновенью,
А вдохновение в стихах,
Как будто бы со сцены пенье.

Наполним мы вином бокал,
Чтоб жизнь нам радость приносила,
В честь буквы выпьем и споем,
Есть в букве жизненная сила!

## ЯКАЎ АНАПРЭЕНКА

*Нарадзіўся 6 студзеня 1952 годзе ў вёсцы Грушнае Брагінскага раёна. Скончыў Лоеўскае педвучылішча, Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт (філасофія), Белдзяржпедуніверсітэт (псіхалогія), вышэйшыя камсамольскую і партыйную школы, аспірантуру БДУ, магістратуру БДПУ. Працаваў настаўнікам на Паміры. Падчас тэрміновай службы ў арміі стаў афіцэрам. У МУС прайшоў шлях ад патрульнага міліцыянера да вядучага навуковага супрацоўніка Навуковага цэнтра. Супрацоўнік Службы бяспекі Штаба XXII Алімпійскіх гульняў (1980), удзельнік ліквідацыі наступстваў аварыі на ЧАЭС (1986), лаўрэат Міжнароднага конкурсу ўрада КНДР (1987). Неаднаразова выбіраўся дэпутатам, адзін з заснавальнікаў Партыі народнай згоды (1992). Першы ў Беларусі магістр псіхалогіі. Аўтар публіцыстычных і навуковых прац па праблемах сацыяльнай псіхалогіі, 10-ці томнага збору твораў "Эклектыка", эсэ "Грушэнскі радавод", фалькльорна-этнаграфічнага рамана "Грушэнскія пролагі" (уключаны ў базы даных каталогаў MIPP International, Brooklyn, NY 11235 USA), гісторыка-біяграфічнага рамана "Лоеўскія пролагі". Мае дзяржаўныя і ведамасныя ўзнагароды.*

### Паветраны шар

Некаторыя грушэнцы не баяліся выказваць свае думкі наконт палітычных падзей, але разумелі, што ў звышідэалагізаванай краіне абмяркоўваць дзеянні Камуністычнай партыі можна было толькі ў станоўчым ракурсе. Мужыкі на нарадзе ў цесным памяшканні канторы ці ля старой лаўкі звычайна дзяліліся то чуткамі аб маючым адбыцца ўрэгуляванні прысядзібных участкаў, то пра каго-небудзь з вяскоўцаў. Зіма яшчэ не скончылася, да вясны далёка – часу для гутаркі шмат. Асабліва жвава абмяркоўвалі газетны артыкул пра тое, што амерыканцы запускаюць на тэрыторыю Савецкага Саюза паветраныя шары з атрутай, каб заразіць людзей яшчурам: "Савецкі ўрад 4 лютага накіраваў урадам ЗША і Турцыі, і 5 лютага ўраду Германскай Федэральнай Рэспублікі ноты па пытанню аб запуску амерыканскімі ваеннымі органамі паветраных шароў у межы паветранай прасторы СССР. Камандаванне ваенна-паветраных сіл ЗША прызнала, што было запушчана 500 паветраных шароў з рознага роду апаратурай і прыстасаваннямі, якія прызначаны для вядзення аэрафатаграфічнай разведкі". Камуніст Гаўрыленка Халіман прадказаў: "Калі падзеі будуць так развівацца і далей, то інтрыгі імперыялізму могуць дайсці і да нас". Але грушэнцы гэтаму не надалі належнай увагі – "рознае пішуць газеты".

Праз некалькі месяцаў грушэнцам наяве прыйшлося сутыкнуцца менавіта з гэтай "інтрыгай імперыялізму". Па вёсцы пачалі хадзіць чуткі аб тым, што нехта знайшоў каля лесу вялічэзны кавалак гумы, верагодна, ад паветранага шара. Жанчыны, наслухаўшыся аб магчымых "дыверсіях імперыялізму", адразу забаранілі сваім дзецям падыходзіць да месца падзення шара і нават дакранацца да зямлі, таму што яна можа быць атручана шпіёнамі.

Нягледзячы на ідэалагічную прапаганду, сярод грушэнскіх дзяцей, як мабыць, і ўсюды ў свеце, знайшліся смельчакі, якія адважыліся парушыць забарону бацькоў. І вось ужо па вёсцы, спачатку таемна, а потым усё смялей, а затым у адкрытую, ходзяць падлеткі з вялікімі кавалкамі шэрай гумы, дзеляцца, слюнявяць, спрабуюць зубамі. Гума больш тоўстая, чым соска ў лаўцы, але ў многіх хапае сіл, каб праз вусны надзімаць капшукі і гучна іх ляпаць.

### Човен

Яшчэ ў старадаўнасці нашы продкі ў якасці сродку воднага транспарту для перавозак грузаў і рыбнай лоўлі карысталіся лодкамі, выдзеўбанымі з цэльных ствалоў дрэў, і называлі іх чоўнамі. Для перавозак па Дняпры вялікіх грузаў старажытныя славяне выраблялі ладдзі з прамымі і разагнутымі бартамі, а таксама буйныя грузавыя пласкадонныя ветразева-грабныя судны тыпу бárак. Вядомы былі нашым прашчурам баркасы, камягі, шугалеі, розных памераў паромы і іншыя судны. На ўстойлівых на плаву вялікіх вастраносых дубовых чоўнах з адцягнутымі бартамі, разлічанымі на перавозку вялікіх грузаў, па Дняпры і Брагінцы кіеўскія князі з дружынай хадзілі

ў палюддзе для збору даніны. На такіх жа лёгкіх і рухавых чоўнах у старажытнасці па водным шляху з “варагаў у грэкі” праз унутраныя водныя шляхі, у тым ліку і па адным з адгалінаваных пратокаў, па рацэ Брагінцы, забяспечваліся гандлёвыя сувязі краін Заходняй і Паўночнай Еўропы з Візантыяй і краінамі Усходу.

Аднойчы мне таксама прыйшлося праплыць па водным шляху з “варагаў у грэкі”. Калі я быў зусім малы, мой поўны цёзка дзед Якаў, вялікі аматар рыбнай лоўлі, пракатаў мяне ў чоўне па Брагінцы. Зробленае ім самім з тоўстай ліпы вастраносае судна было з шырока разгорнутымі бакамі і злёгку закругленай кармой, з вадарэзам і без уключын. Калі мы зручна ўселіся ў транспартны сродак, а човен павольна аддзяліўся ад берага, рака панесла нас па цячэнню. За кармою чаўна цурчала вада. Пакуль дзед, спрытна стоячы на карме, шпарка завіхаўся з адналопасным вяслом, было чутна, як вада ціха бурчала за бортам. Я сядзеў на перакладзіне ў сярэдзіне судна. Човен несла над гладкай ракой. Човен плыў у блакіце зверху і знізу. Блакіт без канца і без краю. Блакіт быў у небе і ў вадзе. Блакіт нёсся адусюль. Я бачыў неба пад вадою. Вакол была вада, водная роўнядзь. І галоўным быў човен, вельмі вялікі і вёрткі доўблены човен. Гэтае асаблівае пачуццё, гэткае дзіва доўгай незвычайнай дарогі не стамляла зайздросціць воднай таямніцы. Па хвалях, якія ўзнімаліся з вады ля чоўна, ігралі водблескі сонца... Але наперадзе – цікавае. Вось – бераг, а вось – водныя расліны, прымацаваныя да грунту ракі, з плаваючым на паверхні лісцем і суквеццямі. А вось – водныя расліны, якія цалкам апушчаны ў ваду, плаваюць у блакітнай рацэ. Вось белы гарлачык, вадзяная лілея на доўгіх чаранках. А вось гарлачык жоўты на доўгіх кветаножках. А гэта – раска, жабіна дзяружка, – яна свабодна плавае, утвараючы суцэльнае покрыва на паверхні ракі.

Дзед, абапіраючыся на вясло, сеў на карме і паклаў вясло ў судна. Човен плаўна праносіла паўз бераг. Поруч з чоўнам праплыла белая, з шызай мантыяй і чорнай шапачкай даўгадзюбая з вузкімі крыламі крачка; ля берага яе чакала чарода сваячак. Лазурная вада прыбліжала чароўнае пясчанае дно, на якім відаць было амаль нерухомую зграю вусатых плямістых пячкуроў. Бліскучыя празрыстыя залаціста-сінія стракозы-прыгажуні з вялікімі вачамі пераляталі, ганяючыся, з чарацінкі на чарацінку, з раслінкі на раслінку, або ненадоўга застывалі ў паветры. Шызыя даўгакрылыя ластаўкі-беражанкі імкліва пікіравалі над вадой. У зараснік трыснёгу, дзе паласкалася вадзяная курка з зеленавата-сінім апярэннем і белым падхвосцем, шмыгнула чаротавая аўсянка. Па звычцы прыляцеўшая з Дняпра белая чайка-крачка з доўгімі крыламі павольна пранеслася над чоўнам, усведамляючы сваю ўладу ў прасторы...

Дзед, убачыўшы маё незвычайнае задавальненне падарожжам, з гонарам замармытаў вясёлую песню і спрытна заарудаваў вяслом. У яго вачах адчувалася асалода. Яго рукі спрытна падміналі пад човен ваду. Рачная плынь і моцныя рукі дзеда панеслі човен па вадзе яшчэ хутчэй, чым дагэтуль. Ударыла па вадзе вясло. З-пад вясла над вадой узняліся іскры. Яшчэ ўдар – і мірыяды малюсенькіх срэбраных шарыкаў імгненна пакаціліся па воднай роўнядзі. Здавалася, быццам кветкі ўзбуджана ўзнялі над вадой свае макаўкі. Я ўбачыў гарлачыка: ён быццам праплываў побач і вітаў мяне, гойдаючыся на хвалях. За вадарэзам пенілася, як ў віру. Зялёная сцяна водарасцей закалыхалася маленькімі хвалямі. І толькі адзін човен спакойна, нецырымонна, але вольна і ўпэўнена перамяшчаўся ў адведзеным яму напрамку. Я радасна зажмурыўся, перайшоў на нос чоўна. Зноў паказаліся рыбкі ў вадзе. Дзед асцярожна падаўся да мяне і прашаптаў: “Лаві!”

Я прасунуў да іх у цёплую ваду рукі – і... рыбкі спрытна ўцяклі. Іх паглынула вада. Дзед з лёгкасцю уздыхнуў і ўсміхнуўся.

Калі мы за паваротам праплылі вербалоз, які ўтварыў вадзяны лес-лазняк, над плынямі лётаў пяшчотны ветрык. Дзед павярнуў човен на бераг, стаў павольна веславаць і сказаў, што трэба ставіцца на прыкол. Бераг павольна набліжаўся.

Калі човен глуха стукнуўся аб бераг і дзед сышоў, каб прышвартавацца, адчувалася яго вялікае задавальненне падарожжам. Усведамляючы далёка не выкарыстаны патэнцыял гэтага транспартнага сродку, дзед сказаў: “На чоўне можна дабрацца да Кіева”.

**Кузня**

“Кузня” – слова грушэнскае. У некаторых месцах Беларусі гавораць: “гамарня”, што па-руску значыць: “кузница”. Апрацоўка

металу коўкай (злучэнне металічных вырабаў, нагрэтых у печах або горнах, штампоўка, прэсаванне) вядома з сівой даўніны, калі людзі пачалі яго выкарыстоўваць. Аб тым, наколькі важнай справай у жыцці людзей была гэтая тэхналогія, сведчыць тое, што многія купцы, астраномы, рэвалюцыянеры, пісьменнікі, акадэмікі мелі адпаведныя прозвішчы, а гарады – назвы, звязаныя з кузняй. У Грушэнскай кузні ля канавы, што ўпадае ў Брагінку, доўгі час кавалём працаваў дзед Ціт Савельевіч, які паступова і паспяхова перадаваў свой вопыт малатабойцу Півуну Калістратавічу. Дзед Ціт каваль быў дасведчаны. У час Першай Сусветнай вайны ў аўстрыйскім палоне ён нагледзеўся розных тэхналагічных працэсаў у вялізарных фабрычна-завадскіх цэхах і часцяком распавядаў, як аўтаматычна робяцца цвікі, гнецца тоўсты метал і іншае. Але ж і грушэнскія кавалі ўмела выраблялі розныя гаспадарчыя прыстасаванні: ад падкоў, сярпоў і вілачнікаў да дэталяў вазоў, сеялак і трактароў.

Мой дзед Якаў, які і сам быў майстрам на ўсе рукі, любіў пры магчымасці зайсці ў кузню, пагаварыць з суседам Цітам або самому змайстраваць для асабістых патрэб якую-небудзь дэталь. Ён умела карыстаўся горнам, каваў метал, мог зрабіць падкову і тут жа падкаваць каня. Яму вельмі падабаўся працэс коўкі, як спосаб апрацоўкі металу ціскам. У выніку шматкратнага перарывістага ўдарнага ўздзеяння невялікім малатком па нагрэтай ў горне нарыхтоўцы дзед надаваў ёй зададзеныя форму, памеры і якасць. Калі жалязяка не была дастаткова пластычнай і супраціўлялася дэфармацыі, дзеду вялікім молатам дапамагаў Півун, які добра спрактыкаваўся ў цяжкай працы, спрытна і рытмічна арудаваў сваім інструментам. Звон з кузні так разлятаўся ўдалячынь, што рэхам адбіваўся ад лесу, хат і нават хмар. Кожны ведаў: працуе кузня.

Дзед Якаў вельмі любіў вадзіць мяне з сабой у кузню, таму што хацеў, мабыць, каб я авалодаў цудоўным рамяством каваля. Мне цікава было назіраць за вельмі звонкім і незвычайным працэсам. Я назіраў за работай скуранага горну і асабліва цікавіўся раздуваннем ніжняга яго меху, гарэннем каменнага вугалю ў топцы, ператварэннем у страшэнным жары металу з шэрага колеру ў чырвоны і нават белы, а таксама гартаваннем металу ў вадзе ці масле.



Аднойчы летам у кузні дзед Якаў абмяркоўваў з мужыкамі міжнародныя навіны. Мне стала марудна, таму што ўсё гэта было вельмі нецікава, і я пайшоў да мосціка на канаве назіраць разам з іншымі хлопцамі за рыбкамі ў вадзе. Нехта зайздросна пакрыкваў: “Глядзі, вунь рыбка на пяску пад вадой”. Мы ляжалі на мосціку і спрабавалі дацягнуцца рукой да вады – так блізка, здавалася, плаваюць рыбкі. Нехта дакрануўся да вады, і яны хутка схаваліся ў водных раслінах. Калі рыбкі зноў з’явяліся, я таксама спрабаваў злавіць іх. Але недастатковы розум не дазволіў мне разлічыць цэнтр вагі для балансіроўкі, і я боўтнуўся галавой у ваду. У нечаканым незвычайным стане я безвынікова спрабаваў самастойна выбрацца з вады. Але вельмі хутка на кліч дзяцей прыбег спалоханы дзед Якаў і вызваліў мяне з палону Нептуна.

Мабыць, дзед не паспеў да канца абмеркаваць у кузні міжнародныя справы, таму што трэба было весці мяне пераапранаць.

## Грушэнскія абрады

У перыяд майго дзяцінства грушэнцы ў традыцыйных дзеяннях-абрадах сімвалічна выражалі і замацоўвалі адносіны паміж сабой ва ўмоўных жыццёвых сітуацыях песенна-дэкаратыўнымі рытуаламі, звычайна звязанымі з гаспадарчай дзейнасцю і гумарыстычна-грамадскімі адносінамі. Асабліва выразна праяўляліся абрады на вяселлі, а таксама ў рытуалах радзін, пахавання, калядавання, шчадравання, навагодняга “засявання”. На Спаса, Пакровы, Каляды, Масленіцу, Купалле грушэнцы ў песнях выкарыстоўвалі жартаўлівыя тэатралізаваныя элементы. У чыста жаночых калектывах гэтыя элементы часцяком пераходзілі на жаласлівы лад са слязамі і горкімі ўспамінамі.

**Масленіца.** Напярэдадні Вялікага посту (Масляны, ці Сырны тыдзень), які ўмоўна падзяляе зіму і вясну, на восьмы дзень перад Вялікаднем баба Аксіння чысціла рыбу, налоўленую дзедам Якавам у Брагінцы, а мама пекла мучныя бліны. У гэты час звычайна на вуліцы з’яўляліся жабракі з далёкіх сёл, якіх у Грушным называлі “старцы”, і ім перападала тое-сёе смачнае. Я з іншымі дзецьмі катаўся на горачцы ля Ліды Цыбулькі. Сусед Саша Прахорчык на зайздрасць

іншым дзецям катаўся па вуліцы на змайстраваным яго дзедам Цітам арыгінальным снежным самакаце (суцэльны трохмятровы кавалак арматуры двойчы сагнуты літарай “П” такім чынам, што два палазы пасля загіну ўверх былі суцэльна злучаныя). Недзе гучна спявалі дзяўчаты. У апошні дзень “праводзін Масленіцы” хтосьці сабраў натоўп ля ўваткнутага ў тычку пудзіла Масленіцы з ануч і саломы, нібы ў жаночым адзенні, і пад вясёлыя крыкі і гумарыстычныя жарты нёс па вуліцах вёскі. У Чысты панядзелак (першы дзень Вялікага паста) мужыкі ля лаўкі “законна” пілі гарэлку, а жанчыны па гаспадарцы ачышчалі пакоі і посуд ад скаромнага.

**Гуканне вясны.** На Паўлавай горцы, дзе было бліжэй да неба, ўсю зіму дзеці каталіся: хто на санках, хто на лыжах, а хто на карыце ці проста коўзаўся на нагах. У канцы зімы, калі дазваляла надвор’е, тут збіраліся нават дарослыя, каб пазабаўляцца-падурэць разам з дзецьмі ў снезе. Кажуць, што гэтыя забавы ў іншых месцах называюцца “гуканнем вясны”, але я не памятаю, каб грушэнцы давалі гэтым гульням такую назву.

**Вялікдзень.** У грушэнцаў гэтае свята было найгалоўнейшым. Памятаю, як баба Аксіння заносіла ў хату асвечаную святой вадой пры богамаленні ў Верынай хаце галінкі вярбы, якую захоўвала да наступнай Вербніцы. Яшчэ да Пасхі, у Чысты чацверг, усе грушэнцы стараліся памыцца хто ў чым: у балеі, карыце ці нават у начоўках. Мама заўсёды адна бяліла вялікую хату з усімі куткамі ля двух пячэй (адна не дзейнічала), двух грубак, дбайна мыла шурпатую падлогу. Я ёй дапамагаў вытрасаць сеннікі з ложкаў, перастаўляць сталы і крэслы. Баба Аксіння да гэтага дня рабіла здобныя булкі і варыла чырвоныя яйкі, якія вечарам “асвечвала” у Верынай хаце. Ранкам Пасха пачыналася ўрачыстым святочным снеданнем. Усе чакалі, калі дзед Якаў першы браў чырвонае яйка, а потым гулялі ў “мацака”: у каго з умоўных супернікаў пасля ўдару яйка застанецца цэлым, той і выйграў. А на вуліцы ўсё больш і больш з’яўляецца аб’еўшыхся каўбасамі ці іншымі стравамі сяльчан, жадаючых згуляць у “мацака”: хто выйграе – таму застанецца “біток” суперніка. Звычайна туканкі ў “мацака” да абеда заканчваліся, таму што амаль усе яйкі грушэнцаў ператвараліся ў “біткі”. Да гэтага ў асноўным і зводзіўся асноўны сэнс Пасхі.



**Радуніца.** Грушэнцы заўсёды па традыцыі шанавалі памерлых. Гэты дзень заўсёды прыходзіцца на аўторак, ён прызнаны праваслаўнай царквой, таму што пасля свята Пасхі можна было падзяліць з нябожчыкамі радасць жыцця. Баба Аксіння гаварыла: “Ад Пасхі да Радуніцы нельга мыць усе цела, а можна толькі ўмывацца”. Яна ў гэты час не працавала ў агародзе, не мыла бялізну, мама не мыла падлогу, дзед Якаў і бацька не калолі дроў і не рабілі цяжкай працы. Амаль усе грушэнцы наведвалі могілкі і здзяйснялі розныя рытуальныя дзеянні, прыносілі ежу, ў асноўным велікодныя яйкі, клалі на крыж або на магілу, дзе сумавалі па назаўсёды пакінуўшых іх блізкіх людзях. Пасля абеду мужыкі гулялі ў карты, устрайвалі папойкі, а жанчыны сядзелі на лавачках.

**Саракі.** 22 сакавіка, у дзень веснавога раўнадзенства, у Грушнае, як і ва ўсё Паўночнае паўшар’е, прыходзіць вясна. Баба Мар’я гэты дзень даўно чакала і гаварыла: “Калі да Саракоў гракі рана прыляцяць, то будзе цёплая вясна”. Ніякіх рытуалаў грушэнцаў, звязаных непасрэдна з Саракамі, акрамя падрыхтоўкі да веснавой сяўбы, я не памятаю.

**Юр’я і Ушэсце.** У дні гэтых свят грушэнскія дзяўчаты, ўшаноўваючы вясну і росквіт прыроды, плялі вянкі з першых лугавых кветак, надзявалі самай прыгожай на галаву, называлі яе русалкай, вадзілі вакол яе карагоды і спявалі песні, каб зберагчы прыгажуню ад маланкі.

**Тройца.** У 50-ы дзень пасля Пасхі грушэнцы святкавалі росквіт прыроды, адзначалі спасланне Святога Духу на апосталаў і ўслаўлялі Святую Сёмуху. Баба Мар’я па загаду Іаана Залатавуста ўпрыгожвала плюшнікам падлогу. Жанчыны ішлі маліцца ў Верыну хату, упрыгожвалі вербныя галінкі.

**Купалле.** У ліпені грушэнскія хлопцы ля маста праз Брагінку з ламачча палілі касцёр, каб пазбегнуць злой сілы, а дзяўчаты спявалі пра цудадзейную сілу зёлак. Нежанатыя хлопцы і дзяўчаты гуртамі сабіраліся пад страхой Карнеенкавай хаты, амаль да ранку танцавалі пад музыку гармоніка ці баяна. Завязваліся рамантычныя сувязі. Але ніякіх пошукаў папараць-кватні у Грушным не было.

**Жніво.** Ад пачатку ліпеня да канца верасня цягнулася жніво – самая цяжкая працоўная дзея, асабліва для жанчын, таму што жыта

Сваім нахабствам хоча быць вышэй за Бога,
Рай збудаваць сабе за кошт людзей збяднелых,
Якіх і так зашмат, ды гэтая дарога
Вядзе ізноў у бездань, да магіл замшэлых.

Таму жыццё з людзьмі настаўнічае хватка:
Каго мілуе сваёй горкаю пілюляй,
Кагосьці грэбуе, камусьці стала таткай,
Прыкрыла ад нягод яно сваёй кашуляй.

Але ў жыцці вялікая ёсць сіла:
Яно ад смерці лепшых мкне зноў зберагчы,
Пакуль жа наша справядлівасць не астыла,
Жыццю, як саду, кожны май для нас цвісці.

**Ты**

Ты найяснейшай прыгажосцю
Увесь напоўніла наш свет,
Які і з пошасцю, і злосцю
Зноў пазіраў на твой імпэт.

І, даўяраючы сумленню,
Праз вольнасць дум і дзікасць мар
Даўно для ўсіх ты нас натхненне,
Што ўвысь імкне, таму цяжар.

Віной таму вачэй маланнасць,
І зменлівы такі настрой,
І ад учынкаў нечаканасць,
Нароўні з пылкаю душой.

Ты не даруеш самавольства,
Калі ўладарыш над зямлёй,



І панскаю сваёй рукой
Мілуеш рэдка, задавольства
Тады з вачэй імчыць тваіх –
Што можа быць мілей за іх?

***

Гарыць касцер ля берага,
Начная даль схавалася,
І месяц п'е за смелага
Ваду, што калыхалася.
А ночка зоркі падкія
Кладзе на плечы берага,
І рэчанька загадкамі
Шле хвалі свае сцерагам.
І ветрык ап'янелы той
Ад дыму лёг пракосамі,
Ад цішыні і сам не свой
Пад любымі нябёсамі.
Цалуе росы, радасны,
Шапоча тайны розныя,
З дзівацкімі прыкрасамі, –
Яму ж усе мы родныя!

***

Наш новы дзень, як новае святло.
Жыццё вірліва мкне да гарызонтаў,
Маё крыло кране тваё крыло,
І сэрцы зноў адчуюць пекнасць зораў.

Чыясьці прага стане лебядой,
Чужыя змерзнуць на арбітах мары
А нам з табой  не знацца век з бядой,
Яе каметы – марныя ахвяры.

Ты не шкадуй, што лёс расплавіў трон,
Што нам дастаўся ад былых паэтаў,
Мы ведаем: жыцце не кліч варон,
А порах, што рассыпаны з імпэтам.

І мы падпалім гэты цуда-скарб,
Каб пасвятлелі вочы, ды ў народа.
Жыве свабода! А народ – не раб,
А волат, што мужнее з асалодай.

**Ляснік**

Ён спраўны лесу гаспадар,
Яго спрадвечны абаронца,
Удумлівы, нібыта цар,
І просты, быццам промні сонца.

Пранізлівы пагляд вачэй
А на руках сляды жывіцы,
І жыць з гадамі не лягчэй,
Ды сілы надаюць крыніцы.

Кварталы сходжаны даўно,
Дзе маладняк расце шчаслівы,
І там сцяжыны кабаноў,
Касуляў і ласёў імклівых.

Як лес натхняе чысціней,
Сваею сілай жыватворнай!
Рып сосен і бяроз спакой
Красою вабяць непаўторнай.

І сын расце на тых вятрах,
Што сэрца бацькі гартавалі,



І будзе лёс мецць свой працяг.
Шумяць, завуць лясныя хвалі!

**Бібліятэкар**

Добразычлівы чысты погляд,
Усмешка цёплая заўжды,
І кнігі тысячамі побач
Глядзяць з паліцаў праз гады.

Ён сэрцаў велічны аптэкар,
Высокі знаўца розных кніг,
Любімы наш бібліятэкар,
Вялікі сябар не на міг.

Ад рук яго мы веды маем
І магію прыгожых слоў.
Тут чавек сябе ўздымае
Вышэй да зор сівых часоў!

**Сем вятроў**

Сем вятроў, на маёй вы далоні,
Сем праныpыстых моцных сяброў,
Адзічэлых на стэпавых скронях,
Апантаных свабодай наноў.

Надакучыла сумна бадзяцца
Па сусветах ды па гарадах,
Нам бы разам узяць ды падняцца
На жыцця непракураны дах.

І падвіцца магутнай віхурай
У адзіным парыве такім,

Каб спужаліся сытыя скуры
За мільены багаццяў сваіх,

Каб цароў аж затрэсла ад жаху
І адчулі жабрацкі свой лёс,
Бездухоўнасці ж сеюцца гмахі,
І няроўнасць расце да бяроз.

Сем вятроў, іх нялёгкая доля,
Ім да скону сусвету імчаць,
Па бяскрайнім жыццёвым тым полі,
І спакой ім пасля адшукаць.

Супыніліся вось, на далоні,
Пасмірнелі, нібы галубкі,
Адкажыце мне, колькі ў загоне
Будзе жыць чалавек і які?

Мо мільены гадоў, адкажыце?
Ці мой дух дажыве да таго,
Як зямля адпачне, ды ў зеніце,
І апошняга веку свайго.

Прамаўчалі вятры баравыя:
Гэтай тайнай валодае Бог.
І шляхамі пабеглі, сівыя,
Над палітрай жыццевых дарог.

**Балада пра князя Вітаўта**

Ён замак пакіне на ранні,
І з войскамі рушыць у шлях,
Не дзеля прыгод ці прызнання,
Гартуючы меч у баях.



І  Вітаўта веліч і сіла
Прымусяць схіліць галаву
Таго, хто дзяржаве нямілы,
Што здаўна Вялікай завуць.

Высокі  і мужны князь Вітаўт,
З гары ён удалеч глядзіць,
Крыжакамі дзеці забіты,
Ім трэба за то адплаціць.

Спустошаны вёскі і нівы,
Крыжакі – бязлітасны род,
Яны да славян не пачцівы,
Для іх мы – плебейскі народ.

Вятры налятаюць пякуча,
Харугвы як хвалі дрыжаць,
У Вітаўта погляд рашучы,
І мужнасцю поўніцца раць.

Ён ведаў: дзяржаўныя справы,
Не любяць штодзённых разваг,
З рашучасцю, смеласцю спраўнай,
Ішоў да сваіх пераваг.

І сёння ён войскам кіруе,
Наперадзе князь і ваяр,
Зноў хутка пах бою адчуе,
І смерці загляне, ды ў твар.

А з ім ваяры-берасцейцы,
З мсціслаўскіх, смаленскіх краёў,
І з Полацку, і гарадзейцы,
І з Менску нямала мячоў.

Так будзе той бой з крыжыкамі,
Чакае Грунвальдскі прастор!
Дзве сілы сыдуцца нажамі,
Дзве праўды дарэжуць дакор.

– Нас будзе чакаць перамога,
Калі не адступім назад!
Прамовіў князь воінам строга,
Ен ведаў: загіне іх шмат…

І пройдуць стагоддзі, як цені,
І будзе зямля ажываць.
Ды не, наш народ на калені
Ніхто не прымусіць устаць!

І моц беларускай дзяржавы
У багне не згіне часоў,
Не згіне і Вітаўта слава,
Як слава і нышых дзядоў!





*Родился 1 ноября 1953 года в Волковыске. Первый поэтический опыт сделал в 6 классе, первые шаги на сцене – в 7-м. В 1969 году поступил в Гродненское музыкально-педагогическое училище и сразу же пришёл в театр к замечательному режиссёру и педагогу Абраму Михайловичу Гильваргу. Это и послужило окончательным решением в выборе будущей профессии.*

*После окончания Гродненского музыкально-педагогического училища работал в родной школе учителем музыки и пения. Затем служил в армии, где были написаны первые опубликованные стихотворения. После службы – снова работа в школе. Но театр и творчество оказались сильнее чисто педагогической деятельности.*

*Режиссёр Заслуженного любительского коллектива РБ театра драмы и комедии “Славутич” Волковысского районного Дома культуры с 1985 года. Поэт, композитор, сценарист. Член Союза театральных деятелей Республики Беларусь. Автор поэтических сборников “Калейдоскоп жизни” и “Избранное”. Печатался в периодических изданиях. Вошёл в антологию “Современная русская поэзия Беларуси”, в сборник “Творчество работников культуры Гродненской области”. Автор гимна города Волковыска.*

*Характерной особенностью поэтического творчества является разнообразие жанровой палитры: лирика, эпиграммы, стихоризмы, пародии, баллады и песни… Но главное – огромная тяга к жанру акростиха.*

**Голоса вокруг нас**

**Г**олоса вокруг нас, голоса…
**О**тправляют витать в небеса
**Л**егкокрылостью фраз…
**О**пасаюсь я лёгкости той,
**С**облазняющей нас пустотой
**А**нтрацитовых глаз.

**В** нарисованных тех голосах
**О**прокинутые небеса,
**К**ривобокость земли…
**Р**азобщённость в звучании слов,
**У**тончённость чугунных оков
**Г**олоса унесли…

**Н**еприметность паденья во тьму…
**А**рхаичность страданий и мук…
**С**нова в сердце приму…

## Нясвіжскі раманс

Заранка згасла ў азёрнай хвалі...
Лягла на Замак цень Радзівілаў...
Мая каханка мяне ўсё хваліць,
“Маэстра” – кліча, а лепш бы – “мілы”...

Цябе сустрэў я ў гадзіне нашай,
А ўсё здаецца – ў часы былыя.
Хто нас асудзіць? Хто нас накажа?
Хто свет кахання ад нас закрые?

Увайшла ты ў сэрца чароўнай нотай...
Твой голас чую: далёкі-блізкі.
Душу сціскае благой пяшчотай, –
Гучыць над светам раманс Нясвіжскі.

Чаму ж такое магло адбыцца?
У адну істоту спляліся двое...
Жыццёвай стала ты мне крыніцай.
Я тваё сэрца надзеяй ўзброіў.

Твая сцяжынка маю сустрэла, –
Пра ўсё забыцца дазвол дала нам.



Прабілі сэрцы Амура стрэлы
Нам, ад кахання чароўна-п’яным...

Дык хай нясецца імклівай нотай,
Цябе шукае далёка – блізка, –
Каханне будзіць благой пяшчотай
Узнёслы, вечны раманс Нясвіжскі.

## Паралич души,
## или
## равнодушия страшнее в мире нет

**П**очему, скажите, милые сограждане,
**А**трофировались чувства вдруг у нас?
**Р**астворилось милосердие у каждого?
**А**лкалоид безразличья прёт из глаз!
**Л**ень увидеть боль, услышать зов о помощи,
**И** в беде утешить, в горе поддержать?
**Ч**астокол бездушья – очень уж знакомый щит.

**Д**оброты металл изъела злобы ржа!
**У**тром ранним просыпаясь, забываем мы
**Ш**ёпот ветра принимать, как Божий дар.
**И** к природе мы давно “неприкасаемы”,

**И** давно погашен пылких чувств пожар!
**Л**ишь о помощи стенанья вы услышали,
**И**нтуицию спешить в себе глуши…

**Р**авнодушия страшнее в мире сыщешь ли?
**А** ещё страшнее – паралич души!
**В**от лежит лицом в траву, без жизни признаков,
**Н**е то – пьяный, не то – бомж, а не то – труп…
**О**т него шарахаемся, как от призрака,
**Д**аже если сердце колет по утру.

**У**тро вечера мудрее – в сказке писано, –
**Ш**утка это иль серьёзно, кто поймёт?
**И**нтерес людей сегодня слишком низменный, –
**Я** бы этот интерес прогнал в помёт.

**С**ердце плачет, как нас к жизни “анимировать”?
**Т**рудно сделать это, но давно пора!
**Р**авнодушием убить мы можем мира мать,
**А** бездействие, ведь, даже не игра.
**Ш**анс остался небольшой – его используем,
**Н**е боясь порывов чувств, эмоций бурь!
**Е**й же, Боже, я отдам себя для пользы ей,
**Е**сли вера победит безверья дурь!

**В**ерьте, граждане, грядёт выздоровление!

**М**елких чувств давно убрать нам надо брак!
**И** проснётся сострадание к потерянным,
**Р**аспахнём сердца и души для добра.
**Е**сть одна средь истин, может приукрашена,

**Н**о она жива в бессмертии планет:
**Е**сли гибель душ в пороке – это страшное, –
**Т**о страшнее равнодушья в мире нет!

**Переоценка, как ревизия души**

**П**ереоценка, как ревизия души…
**Е**ё душУ, изматывая дУшу,
**Р**искуя заблудиться, как в глуши
**Е**стественности выбраться на сушу.
**О**ценка мыслей, перестройка дум

**Ц**арит в мозгах в процессе этом нервном.
**Е**два ли в нём найдёшь свою звезду,



**Н**адеясь быть на ней, к тому же, первым!
**К**ак страшен сей процесс в больном бреду…
**А**бстрактен он и в зависти порыве…

**К** нему я в полном здравии бреду,
**А** не шатаясь на крутом обрыве.
**К**расиво выдал, саморевизор…

**Р**евизий рёв разносится повсюду.
**Е**сть неизбежность в нём найти позор,
**В**еличья в нём искать я и не буду!
**И**так, ревизия своей души
**З**аставит кое в чём и усомниться,
**И**скоренить желанье жить в глуши,
**Я**дрёным словом спесь убрать на лицах,

**Д**обавить больше жажды нужным быть,
**У**брать из обихода жлобства сценки,
**Ш**арахнуть по мозгам финтом судьбы…
**И** вот тогда придёт переоценка!

**Работникам хорошего настроения**
***(акропесня)***

**Р**искну ещё раз я вам спеть о нашей доле,
**А** это значит, вновь поморщатся в верхах…
**Б**езоговорочно одно: я подневолен…
**О**т недовольства их меня “бросает в страх”!
**Т**еперь вот вспомнили о культ-просвет-работе!..
**Н**еплохо б в тот “просвет” “культуры” запустить…
**И** сделать так, чтоб средь проблем насущных сотен
**К**усочек “нежности” культуре подарить.
**А**х, как нам хочется всем жить семьёй единой…
“**М**огучей кучкой” удивлять родной народ.
**Х**отенье это может растопить и льдину,

**О**но ведёт нас за собой, зовёт вперёд!
**Р**искуем мы своим здоровьем на работе:
**О**тважно к людям мы идём и в дождь, и в зной.
**Ш**утя, дрожим мы в холода и мокнем в поте –
**Е**й Богу, нам не позавидует и Ной!
**Г**отовы мы забыть про боли и страданья,
**О**тринув личные проблемы и дела,

**Н**есём мы людям настроение и знания,
**А**кционерный свой несём им, вроде, вклад!
**С**частливей нет нас в целом мире, и…несчастней –
**Т**аить чего проблему? – Мало платят нам!
**Р**искуют многие, уходят в бизнес частный,
**О**днако пропадает в душах их весна!
**Е**два ли выход подскажу я в этой песне –
**Н**е стать орущим мне в пустыне иль в лесу!..
**И** всё же, пусть вокруг вас станет мир чудесней –
**Я** настроенье вам хорошее несу!

**Театру “Христофор” от “Славутича”**

**Т**алантлив Волковыск наш “Христофором”!
**Е**й Богу, Женя, я не вру тебе!
**А** все твои актёры – соло, хором, –
**Т**еатру отдали свои семь бед!
**Р**аскаявшись однажды пред серьёзным,
**У**мчались к далям “юмористско-звёздным”!

**Х**ристос Воскрес! А “Христофор” родился.
**Р**ешил раскрыть себя в “болотной мгле”,
**И**стерзанной “болотной коммумыслью”
**С**оветско-белорусских славных лет.
**Т**е годы вспоминаются, как песня!
**О**, как гремели вы по всей стране!!!
**Ф**ункционеров тех и в мире нет:



**О**ни давно расплавились в огне,
**Р**асплавив заодно душок свой пресный.

**О**т них, ведь, ждать нельзя какой-то “форы”
**Т**аким актёрам, как из “Христофора”!

**С**огласны мы смотреть и днём, и ночью
**Л**юбимые усы, носы, глаза…
**А** как приятна на щеке слеза,
**В**озникшая от смеха, между прочим.
**У**лыбка чудодейственным повтором
**Т**аранит косность старо-новых стен,
**И**зъеденных юмористичным хлором…
**Ч**есть Крыжановскому всегда, везде!
**А** мы навеки будем с “Христофором”!!!

**Учёба в гимназии – трудное дело**

**У**чёба в гимназии – трудное дело, –
**Ч**удесным открытием сердце задела.
**Е**й сразу, с наскока, ты не овладеешь,
**Б**оясь ей отдаться, скорей поседеешь.
**А** если отважно ты бросишься в волны

**В**еликой реки, тайной знания полной…

**Г**отовый, коль надо, воды наглотаться
**И** снова, и снова в реке той купаться,
**М**ечтать о грядущем, стремиться к победам,
**Н**е думать о сытных домашних обедах,
**А** жадно вгрызаться в ученья булыжник,
**З**абыв о коньках, клюшке с шайбой и лыжах,
**И**скусство забросив, и творчество тоже…
**И** здесь скажем: “Стоп! А останется что же?!”

**Т**упая зубрёжка, крутой репетитор,
**Р**одителей вопли: “Где вырвать кредиты?”
**У**роки и тесты, и факультативы,
**Д**обавь ещё думы о будущих “ксивах”…
**Н**у, что там ещё пропустил невзначай я,
**О**ставшись без завтрака, кофе и чая???
**Е**й Богу, вернуться б назад на полвека,

**Д**ругим бы, наверное, стал человеком…
**Е**два ли хочу оправдаться я этим:
**Л**юбите учёбу в гимназии, дети.
**О**на вам поможет быть нужным на свете!

***
Какой таланта главный признак?
Сегодня думал я полночи, –
И понял: цель его не призрак,
А знание, чего он хочет!

***
Сократ сказал: любой из нас, как солнце.
Лишь не мешайте нам светить в оконце!

***
Случайные открытья среди тьмы
Творят небезразличные умы!

***
Истина для не простых ушей
Мудростью китайскою полна:
В жизни даже тысяча мышей
Не заменит одного слона.

***
Эта истина точно поможет вам:
Клевета равнодушна к ничтожествам.



## *ЛЮДМИЛА МИХЕЙКИНА*

*Родилась 18 марта 1955 года в Минске. В 1981 году окончила Белорусский государственный институт народного хозяйства им. В.В. Куйбышева по специальности “планирование промышленности”, получив квалификацию “экономист”. С 1972 по 2010 годы работала на Минском моторном заводе. Занимала должности распреда в инструментальном цеху, инженера-нормировщика, инженера-технолога, экономиста, начальника бюро ценообразования, заместителя начальника планово-экономического отдела. С юности увлекается литературой, пишет стихи и прозу. Автор книг: “Дорогами любви” (2011 год: повести и рассказы), “Такая большая короткая жизнь” (2011 год: стихи).*

### Такая большая короткая жизнь

Такая большая короткая жизнь,
Мелькают, как отблески, наши пути.
Такая большая короткая жизнь,
Надеюсь, что много еще впереди.

Надеюсь, что много тебе расскажу,
Что утром узнала и видела днем.
И больше не радуюсь я миражу,
А то, что ушло, уже кажется сном.

Надеюсь, что сердце узнаю твое,
Влетит в него птицей счастливой любовь.
Надеюсь, поймешь ты молчанье мое,
Значение всех недосказанных слов.

Надеюсь твой шаг удержать налету
И мыслью взлететь на твою высоту.
Надеюсь, что ты мне поможешь желать
Грань лучшую жизни с тобою узнать.

## Маме

Когда майские зори проснулись,
Стерлась грань холодов и тепла,
Жизнь вдохнув, к свету ты потянулась,
Уже с детства горда и смела.

Красотой небеса удивляла.
Глубина их сияла в глазах.
И невольно сердца покоряла,
Оставляя себя лишь в мечтах.

И был нрав, как у вольной царицы,
Шла по жизни, не ведая грез.
Ты кружила, как сильная птица
В вихре жизни, не ведая слез.

О любви говорить не любила,
Проносила ее сквозь года.
Не жалела, себя не щадила
И жила в своем царстве труда.

Не могла с ритма быстрого сбиться
И слезу проронить не могла.
Не могла, уставая, спуститься
С высоты, что себе задала.

В жизни шла по тернистой дороге.
Когда смотришь на пройденный путь,
Тебе кажется слишком он долгим,
Даже хочется где-то свернуть.

Но души необъятная сила
Возрождается снова и вновь.
Детям щедрой душою дарила
Мудрость жизни и сердца любовь.



## Зимняя любовь

Мы повстречались в парке зимнем.
Летела встреча, словно ветер,
Как сила магии старинной
Кружила вихрем в этот вечер.

Деревья инеем светились
В волшебном танце кружевном,
Как отражение святилищ
В пространстве тихом неземном.

Твой смех, улыбки притяженье,
Твои слова – всё, как во сне.
И, словно душ соединенье,
В лучом пронзенном сером дне…

Летит всё вновь в моем сознанье:
И легкость дней, и вечеров,
И выразительность молчанья,
И неопределенность слов.

## Глаза любимых

Глаза любимых, словно звезды,
С надеждой смотрят в наши души
И верят в час признанья поздний –
Святую веру не нарушим.

Томимся мы теплом их нежным,
Защищены мы этой верой,
Когда простор любви безбрежный
Приятно нам ласкает нервы.

Но столько в жизни испытаний,
Мы новых впечатлений жаждем.

Нам хочется в своем сознанье
Достичь вершин каких-то важных.

Но смотрим мы в глаза любимых
И звездный свет их не теряем,
И выше нет вершин хранимых –
Тех, что любовью называем.

**Прощай**

Я сердцем с тобою простилась,
Опять повторяю: “Прощай”.
Судьбы не надеясь на милость,
Ты больше меня не встречай.

Не жди ты меня ранним утром
И вечером поздним не жди,
Любила тем вечером хмурым,
Когда навсегда уходил.

Горька была наша разлука,
Прощальный твой холоден взгляд.
Мои позабыли уж руки
Калитку в наш солнечный сад.

Я встречи с тобой ожидала,
Пришел же не ты, а другой.
Ушел навсегда ты – я знала,
Развеяв всю боль не с тобой.

**С чистого листа**

Очередной судьбы виток,
И снова ввысь я улетаю.



Бежит по венам моим ток,
Их новой силой наполняя.

Вчерашних дней, вчерашних строк
Переверну опять страницы.
Уносит прошлого поток
Чужие дни, чужие лица.

И, словно с чистого листа,
Я новый день свой начинаю,
И суеверно красота
И высота его пугают.

И словно свежая струя
Бежит ко мне в его потоке.
А небо, глядя на меня,
Опять подсказывает строки.

И очень хочется мне жить,
Подарки жизни принимая.
И очень хочется дарить
Всё то, о чем еще узнаю.

**Жене декабриста**

Вновь накрывает слез волна,
Лицом касаешься подушки,
Любви и нежности полна
В холодном мире равнодушья.

Явилась миру ты с небес,
Словно диковинная птица,
Но ждал вдали Сибирский лес,
Суровой жизнью звал забыться.

В мороз ты шла сквозь тыщи верст,
Чтоб мужа целовать оковы,
Которые сквозь мглу пронес –
За светлый мир, другой и новый.

Ты не смотри на этот мир,
Живи, где счастье не остыло,
В стране теней, где твой кумир,
Его мечты, любовь и сила.

**Об отце**

Серый памятник, много их в ряд.
С фотографии смотрит солдат,
И он словно со мной говорит –
Сквозь года и холодный гранит.

А солдат тот моим был отцом,
Юным смерти взглянул он в лицо.
Лишь шестнадцать ему было лет,
Когда взрывы прервали сонет.

Сила духа и юность звала
Защитить дом родной и мечту.
Взрывов гром и кровавая мгла
Не сломили души чистоту.

Жизнь со смертью венчала война,
В дар солдату вручив ордена.
Смерть в войну лишь коснулась слегка,
Взглядом жестким сверкнув свысока.

Огневое разжалось кольцо,
Вздох последний бросая в лицо.
Смерть злопамятной всё же была –
Уже после войны догнала.



Серый памятник, много их в ряд.
С фотографии смотрит солдат.
И он словно со мной говорит –
Сквозь года и холодный гранит.

**Три цвета осени**

Три цвета осени сплетались в пышной кроне –
В последних тихих солнечных лучах:
Оранжевый лист, желтый и зеленый,
Соцветьем ярким небосвод объяв.

Три цвета осени стремились к новой жизни:
Зеленый юным цветом трепетал,
Оранжевый огнем стремился в выси,
А желтый в вихре страстном лето звал.

Сплелись три ярких радужных соцветья
В прекрасную забытую мечту.
Сорвал их вскоре с веток смелый ветер,
И дождь омыл деревьев наготу.

И вот коснулся иней шелком веток,
Мороз обнял, снега метнула высь.
Но, погодя, очнется мир бесцветный:
Придет весна, подарит снова жизнь.

**Дымок воспоминаний**

Повеял холодок осенний,
И тает летнее тепло.
Ушли от сильных потрясений,
Все страсти снегом замело.

Ушли мы от слепых страданий –
Нас увела судьбы рука.
И лишь дымок воспоминаний
Туманит голову слегка.

Ты с нею бесшабашно счастлив –
Тебя я, как никто, пойму.
И я живу в любви, в согласье,
Близки что сердцу моему.

А наш костер остыл, угаснув,
И нет уж от него следа.
И лишь дымок от дней тех страстных
Туманит голову слегка.

Нам нет уже в тот мир дороги,
Ветра стихий мы не вернем,
Исчезли страсти и тревоги –
По-своему сейчас живем.

И ты пройдешь своей дорогой,
Я тоже выбрала свой путь.
И, оглянувшись вновь с порога,
С него нам больше не свернуть.



## *ВИКТОР ПАВЛОВ*

*Родился 16 июля 1949 года на Смоленщине (РФ). После окончания в 1972 году высшего военно-политического училища проходил службу на различных должностях по работе с личным составом. Вышел в отставку в звании подполковника. С 2009 года – председатель общественного объединения ветеранов войны и военного строительства. Награжден несколькими медалями. Один из авторов книги “Для обороны, победы и созидания”, посвященной военным строителям Беларуси. Автор многочисленных статей и публикаций о людях военных строек. В 2007 году удостоен Благодарности Митрополита Филарета, Патриаршего Экзарха всея Беларуси за усердные труды во славу Святой Церкви и на благо Отечества.*

### Создатели Байконура

***12 апреля 2011 года исполнилось 50 лет со дня первого полета человека в космос. В истории СССР космодром Байконур занимает особое место. Во времена российской империи это было глухое и безвестное место. В 1848 году газета “Московские новости” напечатали интересное сообщение властей: “Мещанина Никифора Никитина за крамольные речи о полете на Луну сослать на поселение в Байконур”. Со временем казахстанский поселок Байконур стал первым в истории человечества космодромом. В числе первых, кто сооружал Байконур, были военные строители, в частности 130-е Управление инженерных работ Главного управления специального строительства Министерства обороны СССР. В 2001 году Министерством обороны России была издана книга “Создатели Байконура”, посвященная 50-летию со дня образования прославленной организации.***

Военные строители управления забили 12 января 1955 года первый строительный колышек в излучине реки Сыр-Дарья, близ станции Тюра-Там. Первым десантом изыскателей-строителей был взвод лейтенанта Денежкина. Проектирование осуществлял Центральный

институт проектирования специального строительства МО и главный инженер проекта А.А. Ниточкин. В апреле на место прибыли первые военно-строительные части подполковника Заворотняка, полковника С.М. Лисагора, автомобилисты подполковника М.С. Медиевского, а также строительные батальоны из песков Каракумов и центральных районов Российской Федерации. В дальнейшем наращивание сил строителей стремительно продолжалось. С 1955 по 1965 годы 130-е Управление инженерных работ и строительство на Байконуре возглавлял полковник Шубников Георгий Максимович, в последствии – генерал-майор, заслуженный строитель РФ. В годы Великой Отечественной войны Г.М. Шубников руководил военно-строительными организациями, строил оборонительные сооружения, мосты – в том числе через Вислу, восстанавливал военные заводы. После войны участвовал в строительстве космодрома Капустин Яр, а затем стал первым начальником строительства Байконура.

Работа на строительстве космодрома – напряженный и изнурительный труд в трудных климатических условиях. Палатки, землянки, отсутствие питьевой воды, облака пыли на автомобильных трассах из-за отсутствия твердого покрытия дорог и неподвижного воздуха при 45-градусной жаре – всё пришлось преодолеть первым строителям Байконура. Секретность витала в воздухе и быту, как пыль в воздухе. Космодром имел адрес: Ташкент-90. На плечи военных строителей легла вся тяжесть первых, самых трудных лет создания космодрома. В этот период строился комплекс для создания межконтинентальных баллистических ракет, создавались старты для обеспечения полетов искусственных спутников Земли и первых космонавтов.

15 мая 1957 года (всего через два года после начала строительства) состоялся первый пуск ракеты “Р-7”, а 4 октября – запуск первого искусственного спутника Земли. 12 апреля 1961 года был осуществлен запуск космического корабля “Восток” с первым космонавтом Ю.А. Гагариным.

В сооружении Байконура принимали участие многие коллективы: ученые, проектные организации, подразделения Министерств монтажспецстроя, общего машиностроения, шахтеры, монтажники, инженеры, рабочие многих сотен предприятий, десятки, сотни тысяч



людей различных специальностей, военнослужащие, сотни тысяч военных строителей – космодром строила вся многонациональная страна. 130-е Управление инженерных работ ГУСС МО СССР было основной строительной организацией на легендарном космодроме Байконур. Первоначально Байконур создавался как полигон для испытания боевых межконтинентальных ракет, но со временем боевые старты без особых сложностей были переоборудованы в космические. Здесь были испытаны и отработаны многочисленные боевые ракеты, в т.ч. так называемая “Сатана” конструкции М.К. Янгеля и другие, составившие ракетно-ядерный щит СССР. Были и неудачи. 24 октября 1960 года при испытании боевой ракеты погибли люди, и первый Главком Ракетных войск стратегического назначения главный маршал артиллерии М.И. Неделин, курировавший строительство Байконура. Но, несмотря ни на что, строительство наращивалось.

В конце 1960 года военные строители приступили к строительству первой подземной стартовой площадки, вошедшей в историю Байконура под номером шестьдесят. К 1967 году на Байконуре были построены и действовали десятки стартовых комплексов различных боевых и космических ракет. Густая сеть современных железных и автомобильных дорог связывала эти площадки между собой, а также с жилым городом. Вся территория полигона практически была поделена на три больших района, на территории которых вели работы три главных конструктора. Левое крыло “занимал” В.Н. Челомей, центр обеспечивал работы С.П. Королева с космическими программами, правое крыло “принадлежало” М.К. Янгелю – там в основном испытывалась боевая техника.

За короткий срок на территории 7360 кв. км были возведены десятки сложнейших стартовых комплексов, предназначенных для запуска различных космических и военных ракет, монтажно-испытательные корпуса, станции слежения, огромные технические позиции, обеспечивающие испытания и эксплуатацию комплексов, разветвленная сеть железных и автомобильных дорог, инженерных коммуникаций. В это же время построен Ленинск – уникальный, красивый и благоустроенный город с необходимым соцкультбытом и развитой инфраструктурой. Этот город – воистину цветок из камня в жарком и холодном обрамлении пустыни…

В свое время Генеральный конструктор ракетной техники С.П. Королев так говорил о вкладе военных и гражданских специалистов: “Я был уверен, что военные строители не подведут. Но я не предполагал, что в такой короткий срок они смогут построить так много и так хорошо”.

В последующие годы военные строители занимались возведением комплекса для «лунной программы» со сверхмощной ракетой-носителем “Н-1”. И хотя эта программа была закрыта в 1974 году, (повлияли преждевременная смерть С.П. Королева и неудачи), она явилась основой создания наземного комплекса для многоразовой космической системы (МКС) “Буран”, названного позднее многоразовым ракетно-космическим комплексом (МРКК) “Энергия-Буран”. Котлован под стартовое сооружение по программе “Буран” впечатлял: 250 метров на 500 метров, глубина 50 метров, объем земляных работ – 1,8 миллиона кубометров.

К 1981 над созданием наземного комплекса системы “Энергия-Буран” работало 36 тысяч человек. Достаточно сказать, что наземный комплекс представлял собой крупный объект с уникальной технологией и очень высокими требованиями, стоимостью в ценах того времени более 2-х млрд рублей. Были построены два аэродрома, в том числе с взлетно-посадочной полосой длиной 4500 метоup и шириной 84 метра для орбитального корабля “Буран”.

15 ноября 1988 года с помощью сверхмощной советской ракеты-носителя “Энергия” был выведен на околоземную орбиту 100-тонный многоразовый орбитальный корабль “Буран”, успешно осуществивший после орбитального полета автоматическую посадку в беспилотном варианте на космодроме Байконур.

Создание каждого комплекса – это огромный творческий труд героев-строителей. В 1986 году на космодроме в 130-м Управлении инженерных работ (УИР) было сосредоточено более 80 тысяч солдат и сержантов и свыше 6 тысяч офицеров, прапорщиков и инженерно-технических работников. Гигантский труд строителей позволял успешно решать стоящие задачи.

С 1955 года по октябрь 1991 года с космодрома проведено более тысячи учебных пусков баллистических ракет и 944 запуска ракет-



носителей с космическими аппаратами, пилотируемыми кораблями и межпланетными станциями различного назначения.

В период с 12 апреля 1961года по 1 октября 1991 года было запущено 75 пилотируемых кораблей, 52 автоматических грузовых корабля “Прогресс”, четыре транспортных корабля снабжения (ТКС), восемь станций типа “Салют”, “Алмаз”, “Мир”, на шести из которых работали экипажи, трех специализированных модулей: “Квант”, “Квант-2”, “Кристалл”. Также были выполнены важные международные программы, в том числе советско-американские “Союз-Апполон”. В космосе побывало 69 советских космонавтов и 17 космонавтов-исследователей из 16 иностранных государств по программе международного сотрудничества.

Большой вклад в строительство комплексов и космодрома внесли в свое время руководители 130-й УИР: генерал-майор И.М. Гурович (1965-1972 гг.), полковник В.Ф. Орехов (1972-1978 гг.), полковник Г.М. Питалев (1978-1980 гг.), генерал-майор А.А. Федоров (1980-1986 гг.), генерал-лейтенант А.А. Макарычев (1986-1989 гг.), генерал-майор С.Л. Чухров (1989-1992 гг.), а также сотни других руководителей и командиров, тысячи инженеров и военных строителей. Руководство строительством космодрома непрерывно осуществлялось заместителями министра обороны СССР: генералом армии А.Н. Комаровским, маршалами инженерных войск А.В. Геловани, Н.Ф. Шестопаловым, генерал-полковником Н.В. Чековым, их заместителями – генерал-полковниками Л.В. Шумиловым, К.М. Вертеловым, Н.М. Поповым, а также руководством ГУСС МО – генералами В.Ф. Зотовым, М.Г. Григоренко, В.С. Григорькиным.

В 1987 году военные строители Байконура совместно с оперативными подразделениями округов и флотов страны выполнили большую программу строительства жилья и объектов соцкультбыта. Было введено 70 тысяч кв. метров жилья, 5 детских садов, 4 школы, детская поликлиника с бассейном на 480 посещений. Строительство поликлиники на космодроме Байконур (г. Ленинск) было поручено военным строителям БВО. Мобильный строительно-монтажный участок возглавил офицер В.М. Куник, ныне подполковник запаса, директор ОАО “83 УНР” г. Барановичи. Объект посетил космонавт

№ 2 генерал-полковник Г.С. Титов. Он как куратор от космодрома дал высокую оценку работе белорусских военных строителей.

Военные строители 130-го УИР построили такие уникальные объекты, как кислородный завод – самый большой завод по производству кислорода в Европе, наземные стартовые комплексы, объекты связи и наблюдения, стенд динамических испытаний с высотой ворот 108 метров, уникальный комплекс «стенд-старт», монтажно-заправочный комплекс, водовод протяженностью 150 км из пустыни Кызылкум, включающим скважинный водозабор с глубины 820 метров, трубопроводы диаметром 1200 мм и другие объекты.

После распада СССР материальная база космодрома пришла в запустение. Тем не менее, организация продолжала обеспечивать космодром Байконур. В дальнейшем в 1998 году 130-е Управление инженерных работ было ликвидировано и его функции были переданы созданному 417-му строительному управлению.

Сегодня, в соответствии с соглашениями, подписанными с Казахстаном, космодром Байконур передан в аренду России и продолжает служить интересам РФ и Союзного государства. Вклад военных строителей в обеспечение прорыва в космос является настоящим трудовым подвигом. Высокими правительственными наградами отмечены тысячи военнослужащих, рабочих и служащих. Все сооружения, в том числе “Гагаринский старт”, являются настоящими рукотворными памятниками для потомков, продолжающими служить осуществлению работ по реализации космических программ.



***АЛЯКСЕЙ ПАЛАЧАНСКІ***

*Нарадзіўся 26 сакавіка 1992 года ў Мінску. Скончыў ліцэй Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта ў 2009 годзе. Зараз вучыцца на факультэце радыёфізікі і электронікі БДУ. Піша на беларускай мове вершы і прозу. Друкаваў свае творы ў часопісе “Дзеяслоў”. Жыве ў Мінску.*

**Гарбата са снегам**

Доўгі зімовы вечар распачаўся яшчэ гадзіны ў чатыры. Тут, у кіламетрах ад любога жытла, добра ўжо ссінела, вылупіліся першыя зоры, а пасля ўжо пасыпалі жменямі. На павароце невялікай грунтавай дарогі, сярод растапыраных пад снегам елак, стаяла гулкая цішыня. Тут, у гэтай цішы, было люта халодна, мароз ціха дзёр скуру на твары ды прасякаў пад апранахі. Снег ішоў з раніцы ды трохі ўдзень, цяпер жа неба было чысцюткае, аж дыханне займала. Дзве прысыпаныя каляіны прарэзвалі дарогу уздоўж і цягнуліся далёка – а чаго ж ім было спыняцца? Наперадзе разлілася поле, над ім у бязветранасці сыпалася неба.

Там далей з-за ўзгорка паказаўся чалавек. Ён узлез на яго ды агледзеўся навокал, але быццам бы абыякавы, ён рушыў наўпрост да павароту. Адсюль яго нельга было разгледзець, але ішоў ён нейк няроўна, усё не трапляў у свой тэмп. Для яго быццам бы не было дарогі, ён крочыў дзесьці збоку, прабіраўся праз густы снег. Яму было глыбока, часам здавалася, што ён валіўся долу. Адзін раз дакладна зваліўся быццам на тое, каб ужо не ўставаць. Тады позірк мімаволі скіроўваўся ўгору, на бясконцасць, паміж зор, у халодную абсалютную экзістэнцыю. Дзесьці там, толькі там, забыўшыся на зямлю, на маразы можна пакаштаваць сапраўднага смаку жыцця, параўнаць імгненне і вечнасць, узнесці свае малітвы. Але чалавек той паднімаецца, глядзіць вакол і рушыць далей. І пакуль ён там, далёка, ён нават не ўспрымаецца як чалавек, як жывая істота. Гэта проста цёмная пляма, якую цяжка адрозніць ад снегу пад сінім небам. Але вось бадзяга падыходзіць бліжэй, можна разгледзець, як ён крочыць,

падымае калены ледзь не да шыі, размахвае, дапамагае рукамі, хістаецца, ды з-за гэтага збіваецца са шляху. Але гэта такі ягоны шлях. Халодна яму, ціха грызе мароз за твар, накідваецца, адмахвайся не адмахвайся, лезе за каўнер тугой кашчавай рукой.

Хутка чалавек павялічваецца, дападае да павароту ды вылазіць з сумётаў на дарогу. Толькі і тут ён не спыніўся, крыху глянуў уздоўж дарогі і пайшоў наўпрост, як і ішоў – проста зноў сігануў на ўзбочыну, нібы ні павароту, ні дарогі не існавала. Толькі прахрубасцеў снег на шляху ды застаўся на ім ланцуг крывых слядоў. І зноў яго постаць аддалялася, далей і далей праз поле, у лагчыну, пакуль не злілася з сінім вечаровым марозам.

Вечар ужо зусім быццам бы сыходзіў на ноч, калі падарожны апынуўся блізу невялікага горада. Ён ішоў усё ў ранейшай сваёй манеры, намагаючыся трымацца аднаго кірунка, але яго заносіла ды валіла на бок. Над рэдкім гаем узносілася ружовае святло, але тут, на ўзлеску, было ціхмяна і змрочна. Перад самымі дрэвамі ўжо стаяла на адлегласці колькі дамоў, а адзін адбіўся на самы край; ён быў тут зусім побач. Чалавек як ішоў так і рушыў проста да дому, быццам увесь свой доўгі шлях ён накіроўваўся менавіта да гэтага месца. Ногі яго гэтак жа блыталіся ў высокіх сумётах, калі ён ужо падыходзіў – таксама не пажадаў увайсці праз брамку за колькі крокаў убок, дык сігануў праз жывую загарадзь – так у гэтых месцах азначалі сваю тэрыторыю.

Зусім побач з домам снега не было ад цеплыні, цёмная глейкая глеба разам з гнілой травой ліпнула да падэшваў старых высокіх ботаў з разваленай халявай. "Гразка, гразка, – бурчэў чалавек – а калі тая вясна яшчэ". Дык падышоў тады чалавек да сцяны, да гарачага акна і тады ўжо спыніўся, паклаў рукі на раму і стаў глядзець. Дыханне яго клалася на акно маленькімі аблачынкамі, разганяла намаразь ды сыходзіла парам. Яго постаць перад святлом, у пацёртым кажуху, прыхіленая, прыгорбленая, з рукамі, узнятымі да акна.

Ля акна сядзеў хлопец, самавіта апрануты, з адмыслова зачасанымі валасамі, сядзеў за сталом з доўгім абрусам, ды цягаў пад ім нагамі. Увесь пакой быў святочна асвечаны: электрычнасць і свечкі, залатыя шпалеры з бліскучымі кроплямі. А па лесвіцы з другога паверху спускалася дзяўчына ў святочнай сукенцы. Тварам яна была, можа, і не самая прыгожая, але яе стан так вылучаўся пад уборам, гнутка ўгінаўся за яе плыўнымі рухамі, так яна ведала, як сябе весці, што немагчыма было не захапіцца ёй. Хлопец адсунуў крэсла, ды разліў гарбату з невялічкага імбрычка, усё такімі павольнымі далікатнымі рухамі. Валацуга той гідліва зморшчыўся ад такога. "Ат жа ж, невядома чаго навыдумлялі сабе: соваюцца, соваюцца, усё ім пястота," – ён глядзеў на адмысловы гарбатны сервіз з малымі кубачкамі ды срэбнымі лыжкамі. Дзяўчына сядзела проста, перакрыжаваўшы ногі пад вузкаю сукенкаю, яна падсунула да сябе цукарніцу, адкрыла яе ды ўкінула ў гарбату дзве дробкі. Пасля апусціла лыжачку, ды крышку павадзіла ёй у кубачку, каб не стукнуць раптам. "Ат жа ж," – нават плюнуў за акном валацуга. Але праз гэтую ўдаваную гідлівасць ён збянтэжыўся ад убачанага, нязвыклага ды ўвогуле непрыстасавальнага да яго натуры. Ён неяк прыцішэў, ды пасунуўся бліжэй да акна, бы малое зазірнула ў казачны свет. "Вось жа прыгожая, – сказаў пра дзяўчыну. – Я такой ніколі не бачыў". Ды глядзеў далей на гэтых людзей, невядомых яму, як на іншы свет, глядзеў, пакуль была такая магчымасць. А ў вачах яго галоўным чынам, канешне, заставаўся адбітак далёкай дарогі, але дзесьці звонку, на паверхні плавалі водбліскі багатага святла, электрычнасці, парцаляну.

Але гэта было ўсё, што мог бачыць той чалавек-бадзяка з вуліцы. Тут жа ўсё было, можа, не так гладка, як паказвала тое шкло, праз іскрыстыя ўзоры прасякалі толькі вонкавыя факты ды некаторыя промні абсталёўкі. Чалавек не адчуваў таго паветра, цёплага і дурнога, што згушчалася тут, пад лямпай, над сталом, кубачкамі гарбаты, паміж хлопцам і дзяўчынай. Размова не клеілася. Па праўдзе і размаўляць-та не было аб чым, але і маўчаць было нельга. Хлопец прызнаўся сам сабе, усярэдзіне канешне, што сумуе. Дзяўчына паступова стала яму нецікавая, ён зрабіў з ёй ужо ўсё, што хацеў, і можа, нават нешта, чаго і не хацеў, але што падказвалі сябры. А пакольکі нічога новага не прадбачылася, то каханне зводзілася да паўтору. Цяжка. Дзяўчына ж, пасля таго, што адбывалася, не магла маўчаць, іначай ёй рабілася страшна, калі яна думала аб гэтым. Яна не баялася б, калі б тыя паўторы былі на пачатку іх адносінаў, але больш за ўсё палохалі яе думкі

аб “нечым новым”, як хлопец казаў ёй часам. І вось цяпер ёй было страшна маўчаць, адчуваць сябе пакінутай ці нават правакатаркай, але яна гэтага не выдавала, а сядзела так элегантна, з простай спіной, з перакрыжаванымі нагамі, нібыта спадніца была настолькі шчыльнай, што сама іх сціснула і перакінула ў розныя бакі.

Гарбата была нейкай пустой, бязважкай – зразумела, гарадская вада. Нібы кавалак мыла засеў у глотцы, а разам з тым яе раздзірала, душыла незразумелая крыўда ці яшчэ нешта. Ні ён, ні яна не маглі выказаць думак, таму пакутліва маўчалі, а разарвацца ў прыпадку вар’яцтва тады яшчэ падавалася ім надта недарэчным. Толькі сядзець, піць гарбату і маўчаць, ды яшчэ ласкава пазіраць адзін на аднаго паўзверх кубкаў, выразна ўсміхацца, ды прыплюшчваць вока, варушыць нагамі пад сталом, глядзець на гадзіннік, на каляндар, на дзверы, на стойку з нажамі. Маўчаць.

– У мяне ніколі не было такіх сталых адносінаў з хлопцамі, – маўчыць яна.

– Я думаю, людзі зайздросцяць нашаму шчасцю, – маўчыць ён сам сабе.

Благое, гарачае паветра, усё праз яго. Млеюць заблудныя дзеці, шалеюць ад яго, ад электрычнасці, шпалераў, сурвэтак. І ўжо хлопец, стомлены выяўляць каханне, сціскае кулакі, вытарэшчвае вочы на дзяўчыну, а тая бачыць і цішкам набірае пад сталом тэлефон службы выратавання. Хоць, можа, сёння ўсё і абыдзецца неяк, можа, развязка адкладзецца да нейкага іншага дня, толькі яна будзе, абавязкова будзе. І вось, сапраўды, паглядзіце: скула згладжваецца, ды хлопец лезе ў кішэню пінжака і выхоплівае адтуль пярсцёнак, як пісталет. Ён прапаноўвае, настаўляе яго ў твар дзяўчыне, а тая, аднолькава смяротна напалоханая, згаджаецца быць з ім да самай смерці, альбо адразу ляціць з крэсла з дзіркай у ілбу.

Чаму так, чаму нельга іначай? Нават крыўдна неяк за іх. Паглядзіце на іх яшчэ раз, з боку пакоя. Хлопец сядзіць злева ад вас, дзяўчына справа, а роўна паміж імі замерзла акно, у якім высоўваецца стары валацуга, як малое дзіця, міргае і дзівіцца ва ўсе бакі.

Ды як глядзеў ён, акуратна прытуліўшыся да акна, нібыта сузіраючы нешта святое, то раптам, сумеўшыся, як адскочыць! Ды плюючыся, ды лаючыся, кідаецца на акно, грукоча ў яго, шалее. “Якое права, якое права вам?!” Злуе стары вар’ят, тыя маладыя пасмяяліся б з яго. А ён толькі б’е сухімі рукамі ў марознае шкло, ды што толку? Умерзла шкло, засохлі, закамянелі людзі. “Якое права вам, маладым?!” – крычыць дзед, як даўно не крычаў. Не можа прабачыць ім тут, на марозе, іх цёплага шчасця. Злаяў іх усяляк: “Пачвары! Смаркачы! Вам жа пасля за ўсё гэта плаціць прыйдзецца!” Гэта ён крыкнуў з асаблівай злобай яшчэ і таму, што сам не быў упэўнены ў гэтым, але, сказаць па сакрэту, ён быў правы, прычым правы для кожнага выпадку, хоць і не ведаў гэтага. І пасля гэтага выпадковага вяшчунства ён упаў у знемажэнні, упаў пад акном, каб аддыхацца.

А калі крыху паляжаў, адпачыў, дык узняўся неяк нязграбна, захінуў кажух, ды пайшоў некуды ў іншы бок і ішоў гэтак жа проста, але вагаючыся, праз старыя сумёты, у якіх шарон рэзаў нагу, праз пабітыя дарогі, лясы ды невядомыя паплавы. Ішоў ён, пакуль не стаўся кропкай у далечыні, і калі адвядзеш позірк, то ўжо не зможаш у цемры адшукаць яго.

### Ля дарогі

Ранак. Зімовы. Выйшаў чалавек на ганак, пастаў у дзвярах – адаспаўся ўжо. Марозна, сонечна, шчэць на шыі храбусціць, аб змёрзлы каўнер трэцца. Пакруціў, пакруціў чалавек галавой; вочы, у атачэнні калючых, як той мароз, зморшчынаў, спакойна леглі пад шырокія павекі: “Лып-лып…” – спрасонку трэба распрацаваць усё, разагрэць сваё цела, пачухацца. Глянуў на сваю зямлю, на нейкія хрумсткія прасторы далей – там нейкі лес мроіўся ці нават чыгунка. Сонца, як цуралася чаго, далікатна абыходзіла яго сядзібу бокам і ўвесь свет падаваўся складзеным з даўгаватых тонкіх кавалачкаў марозу. Нават паветра не было суцэльным, але трапляліся ў ім зіхоткія драбінкі, а разам складалі нават нейкую нябачную заслону, перашкоду для руху. “Трэба дзверы закрыць – што я зараз у сенцы холаду напушчу?” – адзіная думка вырвалася ў чалавека і ён сыйшоў на двор, як прачнуўся, у адной кашулі ды ватовых штанах. Падняў

руку – перакрыжаваўся, пільна гледзячы ў бок уяўнага лесу, чыгункі, падняў другі раз – расцёр твар мулкім зляжалым снегам, нібы кавалкам мыла. Твар адразу стаўся чырвоным і свежым, чалавек нешта крэкнуў, ды рушыў у хату.

Дзверы стукнулі, але не зачыніліся і пачалі зноў раскрывацца, але чалавек ужо выходзіў, хутаючыся ў кажух ды расціраючы далоні. Ён яшчэ стаў, прыслухаўся, а пасля рушыў на дарогу ды пайшоў у бок шашы, супрацьлеглы лесу.

На павароце стаялі тры высачэзныя лістоўніцы, напоўненыя такой праўдай, што і думаць пра яе было недарэчна. Але чалавек абмінуў іх і акінуў зіркам раўнапраўнага, без лішніх думак. Ніякіх развагаў аб высокім не прыйшло ў яго галаву.

Ішоў нейкі ломкі чорна-белы бярэзнік. Са сваіх сховаў выходзілі думкі пра яго, ужо смялей, але чалавек проста ішоў, узіраўся ў яго. Танюткія далікатныя галінкі, якія, падавалася, толькі злёгку падчапіць, і яны злятуць долу – усё гэта чалавек ведаў, і было яно для яго натуральным і штодзённым. Пад скупым сонцам, на дарозе снег храбусцеў, быццам капуста. Яшчэ адзін паварот, амаль на сто восемдзесят градусаў – дарога ўхадзіла на мост над шашой. Нейкі дзед у спецадзенні ішоў следам – заўважыў чалавек. Ён выгульваў свайго сабаку. Пасярод маста чалавек спыніўся, глядзеў па-над дрэвамі. Неба яшчэ не страціла адбіткі ўсходу, лёгкія пёры плылі з-за небасхілу, сыпала іскрамі сонца, кідала на дрэвы сваю часовую ласку. Толькі чалавеку таму казаць ці думаць пра гэта не трэба было, быццам апраўдваючыся ці намагаючыся даказаць права на выяўленне духовых пачуццяў.

На масту яго дагнаў дзед з сабакам. Яны ішлі па іншым баку дарогі, дык падыйшлі бліжэй:

– Ці ёсць цыгарэта, можа?

– Няма, выбачай.

Дзед пакорліва пашкандыбаў далей. “Ці ён наўмысна гэта за мной ішоў, каб спытаць смаліць?” – падумаў услед чалавек і пайшоў у супрацьлеглы ад дзеда бок – туды, адкуль прыйшоў.

Гэты ж чалавек тым жа ранкам сядзеў на табурэтцы пасярод свайго гарода ды сёрбаў цёплую гарбату. Перад ім была тая ж нязведаная прастора: хутчэй за ўсё лес і тое што за ім. І не проста лес ён бачыў, а кожнае дрэва паасобку і кожную галінку на ім, як яны цягнуліся насустрач яму. І нешта было нават перад ім непасрэдна. У гэтым крыштальным марозным свеце вымалёўвалася мяжа снега, якая абрывалася перад самай табурэткай. Калюжыны ў сырой глебе, цвёрдыя камлыгі, каменьчыкі, адталая вада ва ўласным следзе – усё было максімальна выразна, выяўляла сябе ва ўсёй сутнасці. Рэзка і бескампрамісна, як неабвяргальная праўда жыцця, паўставалі перад чалавекам дзве засохлыя сцяблінкі, гайдаліся ад подыху ветра ў лепшых традыцыях фізікі, падпарадкоўваліся кожнаму закону, абы толькі дагадзіць чалавеку. А ён сядзеў, сёрбаў гарбату і быў удзячны ім за гэтую ўвагу. Ён увесь быў тут, цалкам, без задніх думак. Толькі тут, пасярод двара, пад небам насупраць лесу, у гэты момант. Зараз.

Ён глянуў раптам уніз і ўбачыў свой абутак: нейкія старыя кеды з надпісам “Vans” альбо нешта накшталт. Дзіўна, але нейкія згадкі паўсталі перад ім. Аднойчы ён прыйшоў у нейкі горад… і там было шмат усяго, вельмі шмат, настолькі, што і заўважыць нічога нельга. І вось сярод гэтай разнастайнасці ён чамусьці абраў адну жанчыну, – тут чалавек напружыўся, каб узгадаць дакладней, як гэта было, але не даў рады. Затое ўзгадаў, як у яго з’явіліся нейкія малыя, якія ўвесь час былі з ім, і яны раслі ушыркі і ўвышыню. А калі яны сталі такімі ж вялікімі, як ён, у яго з’явіўся яшчэ нейкі малы… і калі яму гэта надакучыла, ён сыйшоў адтуль і адзіным напамінкам пра той недарэчны выпадак былі гэтыя кеды, якія падараваў яму той малы, калі знасіў ужо.

Чалавек падумаў яшчэ, наморшчыўшыся, пра гэтыя кеды і, канчаткова заблытаўшыся, падхапіў сваю табурэтку ды рушыў у хату.

Пасля ён пайшоў па дровы ў прыбудоўку і паліў у грубцы, укінуў у ваду некалькі бульбін, цыбулю, тое-сёе і варыў сабе ежу. А калі еў, то думкі яго былі аб тым, што ён есць. А калі працаваў, то аб тым, што ён робіць. Даўно ён ужо не задумваўся аб тым, што трэба, і чаго чакаць, і каго слухаць. І таксама не пакутаваў ён ад залішняга выбару.

Калі надышоў вечар, ён шмарганоў рукавом аб нос ды абапёрся аб паркан. Той крыху пахіліўся, і чалавек падумаў: “Назаўтра будзе

